Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 41 (4892) 14 кастрычніка 2016 г.



# Квіток у Парыж

## як галоўны прыз «Восеньскага салона»



*Фота Кастуся Дробава.*

Што хвалюе маладых аўтараў? Ці знаходзяць яны баланс паміж патрабаваннямі гледача (патэнцыяльнага пакупніка работы) і ўласнай прыхільнасцю да пэўнага мастацкага кірунку? Атрымаць адказы на гэтыя пытанні дазваляе другі «Восеньскі салон» у Мінску — самая маштабная ў краіне выстаўка-кірмаш мастацкіх твораў.

Другі «Восеньскі салон» уражвае колькасцю работ: на выстаўцы прадстаўлена каля пяцісот твораў 162 маладых мастакоў ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Удзельнікаў значна больш, чым у мінулым годзе. Паколькі мастацкіх твораў дадалося, здаецца, павінны быць пэўныя адкрыцці, навізна ідэй, павінны сфарміравацца актуальныя тэмы, якія ў айчыннай творчай прасторы не ўзнімаліся альбо не былі раскрытыя да канца. Каб гэта было патрэбна нашаму грамадству — і тады з пакупнікамі праблем не будзе.

Пад кожнай работай пазначана цана, за якую карціну можна набыць. Але ж цікавасць у тым, што сума нефіксаваная: пакупнік можа патаргавацца і, магчыма, атрымаць прыемную зніжку. Калі сродкаў набыць твор адразу няма, то Белгазпрамбанк прадастаўляе пакупніку растэрміноўку на некалькі месяцаў (у залежнасці ад кошту работы). Летась падчас «Восеньскага салона» было прададзена трыццаць працэнтаў мастацкіх твораў ад усіх, прадстаўленых на экспазіцыі, і гэта нягледзячы на тое, што аўтары свае работы танна не аддавалі. Гэтым разам, спадзяюцца арганізатары, працэнты ад продажаў будуць яшчэ вышэй. І тут нават можна гаварыць не толькі пра фінансавую выгаду, але і пра цікавасць грамадства да айчыннага мастацтва.

Сёлета, падчас арганізацыі «Восеньскага салона», быў зменены парадак адбору мастацкіх твораў. Калі ў мінулы раз адбірала толькі журы, то цяпер на выстаўцы экспануюцца работы, вылучаныя прадстаўнікамі беларускіх галерэй, як сталічных, так і абласных. Такі падыход арганізатары тлумачаць тым, што супрацоўнікі галерэй часцей сутыкаюцца з маладымі таленавітымі творцамі, якія не заўсёды маюць магчымасць быць прадстаўленымі на маштабных выставачных пляцоўках.

Другі «Восеньскі салон» выклікае супярэчлівыя пачуцці: усяго так шмат, што, з аднаго боку, цяжка адразу разважаць пра мастацкія адкрыцці і новыя тэндэнцыі, з другога — добра, што айчыннае мастацтва прасоўваецца на новы ўзровень узаемадзеяння з публікай, у якой бачаць пакупніка. Паколькі сёлетні бонус для пераможцаў выстаўкі — «квіток» на «Восеньскі салон» у Парыж, то трэба спадзявацца, што ўзровень беларускай арганізацыі «Восеньскага салона» з кожным разам будзе дабаўляць у якасці.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Яўгена Гладкова з 75-годдзем. «Многія гады Вы ўносіце прыкметны ўклад у справу захавання і развіцця айчыннага музычнага мастацтва, папулярызуеце лепшыя традыцыі і дасягненні беларускай вакальнай школы як у нашай краіне, так і за мяжой», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы ад імя беларускага народа і сябе асабіста выказаў спачуванні ў сувязі са смерцю польскага рэжысёра Анджэя Вайды яго ўдаве Крысціне Захватовіч. «У Беларусі яго добра ведалі як аднаго з заснавальнікаў і вядучых прадстаўнікоў польскай кінематаграфічнай школы, чалавека з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй», — гаворыцца ў спачуванні. Фільмы Анджэя Вайды вымушаюць гледачоў розных пакаленняў па-іншаму глядзець на свет і шукаць адказы на адвечныя пытанні, а творчасць рэжысёра стала неад'емнай часткай скарбніцы еўрапейскага кіно.

✔ Прэзідэнт Беларусі ў сувязі са смерцю народнай артысткі РСФСР Людмілы Івановай накіраваў спачуванне яе родным і блізкім. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што Людміла Іванова пражыла багатае творчае жыццё, пакінула яркі след у гісторыі савецкага і расійскага тэатра і кінематографа. «На беларускай зямлі любяць і высока цэняць яе творчасць», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Беларускі досвед па папулярызацыі кнігі запатрабаваны ў Санкт-Пецярбургу. Аб гэтым на пасяджэнні круглага стала «Беларусь — Санкт-Пецярбург: супрацоўніцтва ў сферы друку і інфармацыі» паведаміў старшыня Камітэта па друку і ўзаемадзеянні са сродкамі масавай інфармацыі Санкт-Пецярбурга Сяргей Серазлееў. У прыватнасці, па аналогіі з Мінскам у паўночнай сталіцы Расіі у красавіку — жніўні рэалізаваны праект «Мабільная бібліятэка».

✔ Музыканты з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Германіі і Японіі выступяць на XXI Міжнародным фестывалі арганнай музыкі «Званы Сафіі» ў Полацку. Мерапрыемствы форуму пройдуць з 23 кастрычніка па 27 лістапада: у Сафійскім саборы адбудзецца 7 канцэртаў. Падчас фестывалю прагучыць і класічная, і сучасная арганная музыка.

✔ Брэсцкі тэатр лялек узяў удзел у міжнародным фестывалі лялечнікаў «Пятроўскі балаган-2016», які праходзіў у Калінінградзе. Калектыў прапанаваў свой самы вядомы і тытулаваны спектакль — «Халстамер (Гісторыя каня)» паводле аповесці Л. Талстога. Пастаноўка для дарослых была ўключана ў рэпертуар тэатра лялек у 2005 годзе і прыйшлася даспадобы гледачам многіх краін.

✔ XXVI Рэспубліканскі фестываль-конкурс моды і фота «Млын моды» адбудзецца ў Мінску 24 — 25 кастрычніка. Двухдзённы парны майстар-клас «Стварэнне адзінага вобраза ў каманднай рабоце» пройдзе на базе Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі.

# Пашырым творчыя кантакты

У Маскве праходзіць другі з'езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Якія праблемы пісьменніцкага жыцця хвалююць творцаў? На пытанне карэспандэнта «ЛіМа» адказвае сакратар Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук.

— З'езд праводзіцца згодна са Статутам, прынятым на першым з'ездзе. Адбудуцца выбары праўлення, прэзідыума і сустаршыняў творчай арганізацыі. На пытанне, ці патрэбен увогуле Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, адказ адназначны: безумоўна! Мы ж бачым, што адбываецца ў свеце: агрэсія, выбухі нянавісці, знішчэнне маральных каштоўнасцей... Гэтаму супрацьстаяць літаратура і мастацтва. Калі мы аб'яднаем нашы гуманістычныя намаганні, то, безумоўна, толькі выйграем.

Самае вострае, самае насутнае пытанне сёння — заняпад цікавасці сучаснага грамадства да перакладной літаратуры. У нас фактычна няма інстытута перакладу з беларускай на мовы замежных краін. Ёсць толькі асобныя перакладчыкі. Успомнім, аднак, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Івана Мележа: іх кнігі выдаваліся за мяжой! А кожнаму пісьменніку хочацца, каб яго імя ведалі і ў свеце. Трэба імкнуцца пісаць годна і таленавіта.

Шмат хто з айчынных творцаў супрацоўнічае з расійскімі перыядычнымі выданнямі. Прыкладам, штогод выходзіць у свет беларускі нумар часопіса «Наш современник». А вось з выдавецтвамі вельмі мала кантактаў. Як і інфармацыі пра сучасных рускамоўных беларускіх аўтараў. Але ж мы ездзілі і ў Белград, і ў Курск, і да нас прыязджалі расійскія творцы. Так, гасцямі сёлетняга Дня беларускага пісьменства былі Святлана Макарава, Леанід Север...



Дзелавы і культурны комплекс Пасольства Беларусі ў Расіі.

На парадку дня з'езда і праблемы фінансавання беларускіх і расійскіх выданняў, скарачэння колькасці бібліятэк, камплектавання расійскіх кніжніц беларускай літаратурай, беларускіх — расійскай. А яшчэ — магчымасць заснавання літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, у тым ліку і для маладых аўтараў. Верыцца, што тут яшчэ раз знойдзе пацвярджэнне дэвіз з'езда: «Літаратура павінна служыць на карысць грамадства».

**Яна ЯВІЧ**

# Старшынство досведу

**З наступнага года Беларусь будзе старшынстваваць у Савеце па культурным супрацоўніцтве дзяржаў — удзельніц СНД.**

Пра гэта паведаміў міністр культуры нашай краіны Барыс Святлоў па выніках візіту ў Астану, дзе адбывалася пасяджэнне Савета па культурным супрацоўніцтве дзяржаў — удзельніц СНД, прысвечанае 25-годдзю Садружнасці.

— У нас было некалькі пытанняў, якія былі ўключаны ў парадак дня: знаёмства з падыходамі да стварэння Кодэкса аб культуры. Я рабіў разгорнуты даклад, які выклікаў цікавасць: уразіў сам факт з'яўлення такога дакумента, таму ён не проста сведчыць пра кодэкснае мысленне, а наогул дэманструе сістэмны падыход у арганізацыі працы ўсёй галіны, — патлумачыў на брыфінгу журналістам Барыс Святлоў. — Наш досвед карысны для іншых. Ведаю, што ідуць працы па ўдасканаленні заканадаўчай базы ў культурнай сферы ў Казахстане і Арменіі. Таксама мы падзяліліся досведам працы музея-запаведніка «Нясвіж». Выклікала цікавасць арганізацыя ў нас Года культуры, і, магчыма, такі досвед будзе ўлічаны іншымі краінамі на прасторах СНД. Гэты год для нас наогул вельмі творчы. Мы зыходзілі з патрабавання, якое было сфармулявана на пачатку года кіраўніком дзяржавы: прадставіць культуру ў больш шырокім разуменні, чым культура мастацкая. Таму што культура праяўляе сябе ва ўсіх сферах жыццядзейнасці. Але і мастацкая культура цікавая, таму што ў ёй найбольш яскрава бачны творчы падыход — той узор, які ў чыстым выглядзе прысутнічае менавіта ў мастацтве. Гэта ўзор, які могуць узяць за прыклад іншыя сферы: творчы, ці інавацыйны падыход, які можна выкарыстоўваць у розных сферах.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Чытальнікі, на конкурс!

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае аматараў мастацкага чытання да ўдзелу ў творчым конкурсе чытальнікаў беларускай паэзіі. Адборачныя туры пройдуць у Доме літаратара з лістапада 2016 года па люты 2017-га.

Вынікі конкурсу будуць падведзены ў красавіку наступнага года падчас гала-канцэрта на Мінскім гарадскім фестывалі беларускай паэзіі і песні. Лаўрэаты атрымаюць дыпломы фестывалю, памятныя падарункі і грашовыя прэміі, а таксама выступяць на гала-канцэрце.

Удзельнікі чытаюць тры творы: верш класіка беларускай паэзіі, верш сучаснага беларускамоўнага паэта і верш сучаснага рускамоўнага паэта Беларусі.

Заяўкі на ўдзел з указаннем прозвішча, імя і імя па бацьку, года нараджэння, адраса і кантактнага тэлефона накіроўвайце на адрас: 220034, г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5, каб. 309. Або на электронную пошту: *mgo-oo-spb@mail.ru.*

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## У пісьменніцкім асяродку

# Вобраз. Светапогляд. Пераклад

Калі б не было прафесійных перакладчыкаў, беларускі чытач не спазнаў бы ў поўнай меры ўсяго багацця сусветнай літаратуры. Такую думку выказаў айчынны паэт Міхась Башлакоў падчас юбілейнай творчай вечарыны свайго калегі па пяры — паэта і перакладчыка, кіраўніка літаб'яднання Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта «Полистих» Андрэя Цяўлоўскага — у сталічнай публічнай бібліятэцы № 20.

З вершамі і перакладамі творцы публіку пазнаёмілі маладыя артысты паэтычнага тэатра Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі «Рытмы сэрца» (кіраўнік — Кацярына Салата). Свае пераклады вершаў Андрэя Цяўлоўскага гледачам прапанаваў паэт Мікола Шабовіч.

— Андрэю заўсёды ўдаецца ўнікнуць у структуру тэксту, адчуць аўтарскую думку, перадаць найтанчэйшыя адценні слова, — упэўнены старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, які ўручыў юбіляру ганаровую грамату СПБ «За плённую літаратурную працу і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці творчай арганізацыі».

«Не дай мне, Господь, ответить / Наветом на злой навет. / Я верю, что нет на свете / Души, что отвергла свет...» — у гэтых ды іншых радках Андрэя Цяўлоўскага — шчырыя пачуцці, глыбокія перажыванні. А да таго ж — багатая вобразнасць, якая напоўніцу адлюстроўвае ўнутраны свет аўтара.

Зборнік «Кветкавыя ветразі» быў прэзентаваны ў Інстытуце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. У кнігу ўвайшлі творы ўдзельнікаў клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа», створанага два гады таму пры Фундаментальнай бібліятэцы БДУ.

Аўтарамі першага клумбаўскага зборніка сталі студэнты розных факультэтаў. Яны спрабуюць свае сілы ў розных літаратурных жанрах: пішуць апавяданні, казкі, нарысы. Многія маладыя літаратары — лаўрэаты ўніверсітэцкага літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп», старшынёю журы якога на працягу многіх гадоў з'яўляецца старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Дарэчы, тры аўтарскія кнігі клумбаўцаў пабачылі свет у кніжнай серыі МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы». Гэта зборнікі вершаў члена СПБ Таццяны Купрыянец, а таксама Кацярыны Роўда і Кацярыны Стройлавай. Прэзентаваны зборнік выйшаў пад рэдакцыяй пісьменніка Анатоля Зэкава пры падтрымцы рэктарата Белдзяржуніверсітэта.

Чарговы зборнік лепшых твораў удзельнікаў абласнога літаратурнага конкурсу для дзяцей і юнацтва «Адкрыццё 2014 — 2015» пабачыў свет у Брэсце.

Сярод суаўтараў кнігі — сябар Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Алёна Папко, студэнтка Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Яўгенія Пракапчук... Усяго ж у зборніку змешчаны творы амаль двух дзясяткаў аўтараў з Брэста, Іванава, Пінска, Ганцавіч, Івацэвіч.

Арганізатары конкурсу — аддзелы адукацыі, спорту і турызму раённых і гарадскіх выканаўчых камітэтаў Брэстчыны — актыўна спрыяюць таму, каб далучыць да конкурсу як мага больш моладзі.

Ці ёсць інтэлект у жывёл? Безумоўна! У гэтым можна было ўпэўніцца, паглядзеўшы пастаноўку «Кацiныя жарсці, сабачыя напасці і конь, які...» самадзейнага тэатра «Литосфера» пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

«Чёрный кот мне перешёл дорогу. / Улыбнулся, глянув на меня...» Гэта радкі з верша Анастасіі Кузьмічовай... А што, каты ўмеюць усміхацца?.. У мастацкім творы ўсё магчыма.

Занятыя ў спектаклі акцёры — паэтэса, член СПБ Анастасія Кузьмічова ды літаратары Дзмітрый Юртаеў і Мікалай Васілеўскі — не толькі выканаўцы роляў, але і суаўтары сцэнарыя, у якім выкарыстаныя іх паэтычныя творы. Аказваецца, коткі ды сабакі могуць і вершы дэкламаваць! І паэзію разумеюць. Не верыце? Тады «Кацiныя жарсці...» — менавіта для вас!

Калектыў «Литосферы» паказвае свае спектаклі на самых розных пляцоўках. Напрыклад, днямі артысты завіталі ў сталічную дзіцячую бібліятэку № 3, у чарговы раз даказаўшы: іх пастаноўкі здольныя ўразіць слухачоў усіх узростаў.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Да сусветнага кантэнту?

## Чаго чакаць ад бібліятэкі новага фармату

**Пашырэнне інфармацыйнай прасторы, інтэнсіўнае ўкараненне інавацый спараджае новыя фарматы культурнага ўзаемадзеяння. І бібліятэкі прэтэндуюць на ролю культурных дамінант інфармацыйнага асяроддзя. Як інавацыі ўздзейнічаюць на будучыню бібліятэкі? Што зменіцца? Разбіраліся на IV Міжнародным кангрэсе «Бібліятэка як феномен культуры» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**



Стэлажы з кнігамі адначасова як канапы. Іх можна без цяжкасці перасоўваць, каб вызваліць прастору для мерапрыемстваў. Як у санкт-пецярбургскай бібліятэцы імя М. В. Гогаля. Шматфункцыянальнасць — залог поспеху любой грамадскай прасторы, мяркуюць спецыялісты. А аформіць кнігу з дапамогай тэрмінала, без бібліятэкара?.. Інфармацыйныя тэхналогіі трансфармуюць не толькі інфармацыйную прастору — узнікае новая сацыякультурная рэальнасць. Моцныя камунікатыўныя сувязі, мультымедыйнасць, інтэрактыўнасць…

Інфарматызацыя як глабальны сацыякультурны працэс, які ўзмацняе ўзаемадзенні соцыуму, стала праекцыяй новых фундаментальных тэм, адзначае даследчыца з Украіны Наталля Іванова. Такія працэсы — адлюстраванне тэорыі У. І. Вярнадскага пра наасферу: інтэлект асобнага чалавека павінен ператварыцца ў інтэлект грамадскі.

Развіццё інфарматызацыі фарміруе новую зместавую напоўненасць бібліятэкі. Сёння бібліятэка актуальная не столькі для захоўвання і распаўсюджвання інфармацыі, колькі для кіравання інфармацыяй і рэгулявання інфармацыйнымі патокамі. Новыя формы культурнай сферы — лічбавыя інсталяцыі, медыягалерэі, анлайн-музеі інш. — змяняюць працэс камунікацыі, спосабы доступу да інфармацыі і спосабы яе засваення.

Інфармацыйныя рэсурсы бібліятэк — аснова для стварэння сусветнага кантэнту ў галіне навукі і культуры, фактар выхавання інавацыйнай культуры, лічыць Наталля Іванова. Наперадзе — інтэграцыя ў глабальную інфармацыйную прастору. Аб'яднанне бібліятэк накіравана на ўзаемадзеянне кантэнту, каб зрабіць культурную спадчыну даступнай усяму свету.

Галоўны інфармацыйны цэнтр краіны — Нацыянальная бібліятэка Беларусі — абслугоўвае 157 тысяч індывідуальных карыстальнікаў. З кожным годам узрастае колькасць тых, хто абірае віртуальны рэжым карыстання, распавядае першы намеснік дырэктара па абслугоўванні карыстальнікаў і ідэалогіі НББ Алена Далгаполава. З 2010 па 2015 аддаленых карыстальнікаў павялічылася ў 1,6 разу і склала 47% ад агульнай колькасці карыстальнікаў. З 2010 года праз інтэрнэт-партал НББ прадастаўлены доступ да Зводнага электроннага каталога (ЗЭК), асноўны масіў якога фарміруецца найбуйнейшымі рэспубліканскімі бібліятэкамі: НББ, ЦНБ НАН імя Я. Коласа, Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкай, Прэзідэнцкай бібліятэкай.

Самы просты, але прадуктыўны шлях для развіцця бібліятэк — гэта нават не аб'яднанне, а кааперацыя і каардынацыя работы, перакананы дырэктар і намеснік дырэктара Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкі Раіса Сухарукава і Аляксандр Саладкоў. Узаемнае выкарыстанне інфармацыйных рэсурсаў і паслуг — пашырэнне магчымасцей па задавальненні запытаў карыстальнікаў. Раіса Сухарукава і Аляксандр Саладкоў канстатуюць, што бібліятэкі будуць аб'ядноўвацца. Як прыклад — аб'яднанне гарадской і раённай бібліятэк, дзіцячай і дарослай. Разам з тым падзел бібліятэк на навукова-адукацыйныя і культурна-дасугавыя; стварэнне электронных каталогаў будзе перацякаць у выдавецкую сферу; зводныя электронныя каталогі стануць адзінымі на ўсю дзяржаву. Магчыма стварэнне зводнага электроннага каталога групы дзяржаў, напрыклад, краін СНД.

Увогуле, кніжніца актыўна ператвараецца ў месца сустрэч, зносін і творчага росту. Удасканаленне бібліятэкі спецыялісты бачаць у пашырэнні яе функцый і змене падыходаў да выкарыстання прасторы. Дырэктар бібліятэкі ў Хельсінкі Кары Лямся адзначае, што галоўная функцыя бібліятэкі новага фармату — прадаставіць наведвальнікам прастору, абсталяванне і ноу-хау. Сучасныя чытачы выкарыстоўваюць памяшканні для вучобы ці як мабільны офіс, а традыцыйныя функцыі бібліятэкі — прадастаўленне кніг — адыходзяць на другі план.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# МЕЛОДЫКА ДУХОЎНАГА

Штогадовы духоўна-асветніцкі праект «Дні праваслаўнай культуры ў Мінску "Хваліце імя Гасподне"» распачаўся ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 19. Арганізатары — Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і прыход храма святой праведнай Сафіі Слуцкай (сакратар храма — сябар СПБ Тамара Лявішка). У кніжніцы прайшоў творчы вечар сябра СПБ, галоўнага рэдактара газеты «Воскресение», рэдактара серыі кніг для дзяцей «Сонечны зайчык» Выдавецтва Беларускага Экзархата, паэта і празаіка Алены Міхаленка.

Пісьменніца распавяла пра творчасць і прадставіла публіцы ўрыўкі са сваіх твораў. У імпрэзе ўзялі ўдзел і яе калегі па пяры: Наталія Касцючэнка, Лізавета Палеес, Наталля Капа, Алена Піменава, акцёры Алена Шабад ды Яўген Піменаў.

У выкананні Кліраснага хору храма святой праведнай Сафіі Слуцкай і хору «Камертон» дзіцячай музычнай школы № 6 прагучалі творы айчынных кампазітараў. На персанальную выстаўку запрасіла сябра Беларускага саюза дызайнераў Людміла Баравая.

**Мікалай ГАЎРЫЛЕНКА**

## Ідзе падпіска на I паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | Падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 30 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 10 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 2 р. 80 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 10 к. | 63880 |

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**15 кастрычніка** — *у літаратурнае кафэ на паэтычнае свята, прысвечанае мецэнацтву і дзяцінству, у выставачны павільён БелЭКСПА (пр. Пераможцаў, 14). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**16 кастрычніка** — *на канцэрт духоўнай паэзіі і музыкі ў межах дзён праваслаўнай культуры ў Акадэмію Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь (пр. Машэрава, 6). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**18 кастрычніка** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчую сустрэчу з паэтам Зміцерам Марозавым. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**19 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай, перакладчыкам і літаратурным крытыкам Юліяй Алейчанка ў межах праекта «Маладыя — маладым» у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 14.15.*

**19 кастрычніка** — *на юбілейны творчы вечар празаіка Мікалая Ільінскага ў актавую залу Акадэміі МУС (пр. Машэрава, 6). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 кастрычніка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчую сустрэчу з ансамблем народнай песні і музыкі «Менскі гармонік», у выкананні якога прагучаць песні на вершы беларускіх паэтаў. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**20 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з маладой паэтэсай Ганнай Чумаковай у публічную бібліятэку № 7 імя Якуба Коласа (вул. Пляханава, 97/4). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**21 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у Барысаўскую раённую бібліятэку (вул. Чапаева, 3). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**21 кастрычніка** — *на літаратурнае свята з удзелам пісьменнікаў, якое адбудзецца ў межах дзён праваслаўнай культуры ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (вул. Гікалы, 4). Пачатак аб 16-й гадзіне.*

## Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**18 кастрычніка** — *на вечарыну «Паэтычнае трыа. Творчасць сям'і Шуханковых» у літаратурную гасцёўню маладых аўтараў «31 мерыдыян» (Цэнтральная бібліятэка імя А. І. Герцэна, вул. Савецкая, 26). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**20 кастрычніка** — *на сустрэчу з лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Кірылы Тураўскага, пісьменнікам Аляксандрам Атрушкевічам у межах праекта «Жывы аўтограф» (Цэнтральная бібліятэка імя А. І. Герцэна, вул. Савецкая, 26). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

## Дайджэст

• У новай экранізацыі «Забойства ва Усходнім экспрэсе» Агаты Крысці возьмуць удзел славутыя акцёры Джоні Дэп і Джудзі Дэнч, Мішэль Пфайфер і Кенэт Брана. Пра стварэнне фільма стала вядома ў 2013 годзе, калі студыя *Fox* выкупіла адпаведныя правы. Аднак працэс падрыхтоўкі да здымак запыніўся і быў узноўлены толькі сёлета. Роля дэтэктыва Эркюля Пуаро замацавана за Кенэтам Брана, які, да ўсяго, выступае рэжысёрам стужкі. Сюжэт рамана застанецца нязменны.

• Дзве карціны Ван Гога, выкрадзеныя 14 гадоў таму, знайшла італьянская паліцыя. Яны зніклі з музея ў Амстэрдаме. Меркавалася, што выкраданне ў 2002 годзе арганізавала мафія. Расследаванне вялося ўвесь гэты час, і цяпер «Від на мора ля Схэвэнінгена» і «Царква ў Нюэнэне» знойдзеныя. Карціны добра захаваліся, але рамы знішчаныя, а на саміх палотнах ёсць некаторыя пашкоджанні. Работы ацэньваюцца спецыялістамі ў мільёны еўра.

• На станцыі метро «Расказаўка» ў Маскве з'явіцца бібліятэка. Гэта канцавая станцыя на Калінінска-Сонцаўскай лініі, і адкрыецца яна ў наступным годзе. Архітэктары распавялі, што стылем «Расказаўка» будзе нагадваць звычайную бібліятэку, а калоны падобныя да вялізных каталожных скрыняў з карткамі назваў наяўных літаратурных твораў. Калоны будуць мець *QR*-коды, што дазволяць спампаваць упадабаны твор на мабільную прыладу. Колькасць кніг, якія патрапяць у віртуальную бібліятэку, пакуль не паведамляецца.

• Прадстаўнік Расійскай праваслаўнай царквы Міхаіл Хасьмінскі заявіў, што ў расійскай школьнай праграме прысутнічаюць творы, якія падштурхоўваюць да самагубства. Спадар Міхаіл — кіраўнік Цэнтра крызіснай псіхалогіі, што функцыянуе пры Патрыярхаце РПЦ. Перадусім ён меў на ўвазе творы «Анна Карэніна» Талстога і «Рамэа і Джульета» Шэкспіра. Па меркаванні Міхаіла Хасьмінскага, творы вызначаюць самагубства як адзіны выхад са складанай жыццёвай сітуацыі. У чорны спіс патрапілі таксама Чэхаў з «Чайкай», Горкі з п'есай «На дне». Пры гэтым спадар Міхаіл падкрэсліў, што не заклікае да выключэння твораў са школьнай праграмы. Аднак педагогі пры гэтым павінны акуратна патлумачыць падлеткам, што самагубства — няправільны крок.

• Выдавецтва «Папуры» выпусціла 13 новых тамоў серыі «Мая беларуская кніга». Сярод аўтараў — Уладзімір Караткевіч, Янка Маўр, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Эліза Ажэшка, Кастусь Тарасаў. Калі казаць пра творы, гэта «Мёртвым не баліць» і «Жоўты пясочак» Быкава, «Зброя» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Караткевіча, «Амок» і «Чалавек ідзе» Маўра, «Хам» Элізы Ажэшка і інш. Да таго серыя налічвала 30 кніг. Прэзентацыя новых тамоў адбылася 5 кастрычніка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні паэтэсе Валянціне Пятроўне Паліканінай з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.

Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ выказвае шчырыя спачуванні дзіцячай пісьменніцы Ганне Іосіфаўне Скаржынскай-Савіцкай з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці МАЦІ.

# «Картатэка» з маленства

**Літаратура для дзяцей — гэта цэлы свет, поўны дзівосных вобразаў і неверагодных прыгод, магіі, чарадзейства і загадак. Таму дзіцячы пісьменнік мусіць быць яшчэ і псіхолагам, каб захапіць чытаннем, не параніўшы юную душу. Дык як жа пісаць, каб юныя чыталі з цікавасцю? Хто ён, герой дзіцячай кнігі? Пра гэта ды іншае — наша гутарка з лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі «Лепшы твор для дзяцей і юнацтва», пісьменнікам Сяргеем Давідовічам.**


*Фота Сяргея Нікановіча.*

*Сяргей Давідовіч.*

**— Сяргей Фёдаравіч, што, на вашу думку, уяўляе сабою сучасная літаратура для дзяцей?**

— У айчынным ды сусветным літаратурным працэсе дзіцячая літаратура займае адметнае месца. Чаму? Адкажу пытаннем: якое месца ў нашым жыцці займаюць дзеці? Кожнаму сталаму чалавеку дастаткова ўспомніць сваё дзяцінства, і мы з цеплынёй нагадваем самім сабе, што першымі кніжкамі ў нашым жыцці былі казкі. Мы выхоўваліся на дабрыні, якую неслі казкі, у іх мы вучыліся высакароднасці і шчырасці, усёй дзіцячай душой былі на баку казачных герояў, якія перамагалі зло.

Ролю казак у выхаванні дзяцей пераацаніць цяжка. Як гаворыцца, скажы мне, хто твой сябар, і я скажу, хто ты. Іншымі словамі, пакажы мне напісаную табой казку, і я скажу, які ты літаратар, — настолькі складаны гэты жанр. Пісьменнік стварае цудоўныя раманы, а на казцы можа «спатыкнуцца», бо казачная мова — гэта мова маленства, а мы, сталеючы, паступова забываем яе. Як разважае персанаж адной з маіх казак, можна правесці своеасаблівы тэст на выяўленне людзей з жывой душой. Калі чалавек у сталым узросце чытае казкі — яго душа жывая. Не чытае — значыць, няма больш у душы голасу маленства, а гэта самае страшнае. Старасць не рызыкуе наблізіцца да таго, хто душою не выйшаў з таго ружовага, крынічнага перыяду жыцця, які завецца маленствам. Наколькі больш было б на зямлі дабра, калі б кожны дарослы перад сном браў у рукі кнігу казак!

Хто ж ён такі, сучасны дзіцячы аўтар? У першую чаргу — выхавацель. Можна пісаць і смешна, і весела, але калі ў міжрадкоўі няма павучальна-выхаваўчага падтэксту, ад вясёлай і смешнай казкі ў сэрцы маленькага чытача не застанецца нічога. Дзеці падсвядома назапашваюць у душы выхаваўча-карыснае, у іх падсвядома фарміруецца ўласны светапогляд, і на працягу ўсяго жыцця яны карыстаюцца той «картатэкай», якую мы, пісьменнікі, дапамаглі ім прыдбаць у маленстве. Роля дзіцячага пісьменніка ў фарміраванні дзіцяці як асобы выключная. Вось чаму казка лічыцца самым складаным і адказным жанрам у літаратуры.

**— Як вы, паэт і мастак, пачалі пісаць для дзяцей?**

— У дзіцячую літаратуру мяне ўвялі самі дзеці. Мне часта даводзіцца выступаць перад рознымі аўдыторыямі, у тым ліку і ў школах. І я заўважыў, што дзеці — самыя ўдзячныя і шчырыя слухачы. Гледзячы ў іх вочы, напоўненыя чысцінёй, адчуваеш, як шмат у нашым складаным жыцці светлага, добрага, як шмат надзей на лепшае. Менавіта дзіцячая аўдыторыя выявіла ў маёй творчай, жанравай палітры прабел — адсутнасць дзіцячых твораў. Але сярод школьнікаў ёсць і старшакласнікі, для якіх неабходна асвятляць іх тэму — тэму юнацтва.

**— Хто ваш любімы дзіцячы пісьменнік?**

— Калі казаць пра сучасных аўтараў, у тым ліку пра айчынных казачнікаў, адназначна адказаць немагчыма. Дзіцячых пісьменнікаў сёння шмат, кожны па-свойму цікавы. Пералічваць усіх вядомых — справа марная. Але любімую кнігу дзяцінства, ды і не толькі майго, усё ж назаву: гэта «Беларускія народныя казкі». Яны ўзрушылі, увялі ў свет дзівосаў, запаліўшы ў сэрцы непагасны агеньчык любові да дзіцячай кнігі. І не толькі да дзіцячай. А як мы, пакаленне дзяцей вайны, у свой час захапляліся героямі рускіх народных казак і былін: Ільёй Мурамцам, Дабрынем Мікітавічам, Алёшам Паповічам, Мікулам Селянінавічам, Святагорам-багатыром! Пазней зачытваліся казкамі Ганса Хрысціяна Андэрсена, Братоў Грым.

**— «Баявая нічыя», «Залаты буліт»… У сваіх творах для дзяцей вы звяртаецеся да тэмы спорту. Чаму абралі менавіта яе?**

— У творчасці, у мастацтве заўсёды вабіць разнастайнасць тэм. Пісаць увесь час пра штосьці адно нецікава. Тэму спорту я закрануў таму, што ў рухавых гульнях найбольш яскрава выяўляюцца станоўчыя і адмоўныя рысы характару дзіцяці, падлетка, юнака. Акрамя таго, у спорце, асабліва ў футболе і хакеі, паколькі гэта камандныя гульні, заўсёды востра праяўляюцца пачуцці калектывізму і адказнасці перад таварышамі за вынік спаборніцтва. Тут, на спартыўнай пляцоўцы, галоўныя героі — самі падлеткі. На іх паводзінах, на псіхалогіі іх стасункаў і будуецца літаратурны твор. Ды і сам я, як і большасць падлеткаў майго пакалення, любіў паганяць футбольны мяч, пакатацца на каньках.

**— Хто галоўныя героі вашых кніг? Ці ёсць у персанажаў прататыпы?**

— Як правіла, гэта станоўчыя персанажы — і дзеці, і дарослыя. Але без адмоўных герояў немагчыма раскрыць у творы вечную праблему супрацьстаяння дабра і зла. У казках жа героямі нярэдка выступаюць звяры, птушкі, насякомыя і матухна прырода. Казкі тым і прывабліваюць дзяцей, што заяц у іх можа размаўляць з ваўком, а клён — з бярозай. Прытым героі кніг, нават людзі, часта з'яўляюцца плодам фантазіі аўтара, а вось іх характары, як правіла, бяруцца з жыцця.

Дарэчы, я не лічу сябе дзіцячым пісьменнікам — пакуль не заслужыў такое ганаровае званне. Толькі дакрануўся да надзвычай цікавага жанру дзіцячай літаратуры. Калі і надалей сэрца пакліча мяне разам з маленькімі чытачамі ў дарогу да казачных цудаў і прыгод, з радасцю і пачуццём вялікай адказнасці буду пераадольваць гэты шлях, а справаздачу перад чытачом зраблю новымі творамі.

**— Як пісаць, каб зацікавіць дзіця кнігай?**

— Найперш кніга павінна быць яркай і густоўна афармленай, бо сустракаюць па вокладцы, а праводзяць па розуме. Цікава афармленая кніга прыцягвае, запрашае разгарнуць яе, а далей справа ўжо за пісьменнікам. Поспех шмат у чым залежыць ад душэўных якасцей аўтара, ад яго здольнасці адчуваць вялізную аўдыторыю сваіх самых галоўных будучых чытачоў. Прычым адчуваць найперш сэрцам. Тады на паперу лягуць менавіта тыя словы, якія закрануць дзіцячыя сэрцы. А тэмы могуць (і павінны!) быць самымі рознымі: светаўспрыманне і густ у кожнага свае. Дзіцячыя кнігі — гэта ўвасабленне шматколернасці псіхалагічнага ўздзеяння на дзіцячыя душы.

**— Што адчуваеце пасля атрымання Нацыянальнай літаратурнай прэміі?**

— Вельмі радуе, што ў нашай краіне адводзіцца пачэснае месца дзіцячай літаратуры, што ў дзяржаўных выдавецтвах кнігам для дзяцей даецца зялёнае святло. Менавіта такую зацікаўленасць дзіцячай літаратурай з боку дзяржавы я адчуў, калі мне ўручалі Нацыянальную літаратурную прэмію. Увага да кнігі і ёсць самая высокая ўзнагарода.

**Яна ЯВІЧ**

*Сувязі*

# У АДНОЙ ГУМАНІТАРНАЙ ПРАСТОРЫ

**У Маскве праходзіць з'езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. У пярэдадзень з'езда мы задалі некалькі пытанняў старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Іванавічу Чаргінцу пра сённяшні стан беларуска-расійскіх літаратурных сувязяў.**

**— Мікалай Іванавіч, як бы вы ахарактарызавалі сённяшняе развіццё беларуска-райскіх літаратурных стасункаў?**

— Мне падаецца, што гэтая тэма досыць шырокая. І ахарактарызаваць яе можна толькі ў доўгай размове. Але пастараюся абазначыць хаця б некаторыя кірункі. Мы актыўна супрацоўнічаем з расійскімі рэгіёнамі. Ці не найперш — з Санкт-Пецярбургам, санкт-пецярбургскімі часопісамі і выдавецтвамі. Як выразны паказчык гэтага — шматлікія публікацыі беларускіх аўтараў у розных выданнях у горадзе на Няве. Па-другое, вагу, аўтарытэт займеў часопіс «Белая Вежа» як выданне Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Хочацца падзякаваць камандзе, якая працуе над гэтым творчым праектам.

**— Саюз пісьменнікаў — сярод арганізатараў круглага стала замежных літаратараў падчас Дня беларускага пісьменства…**

— І якраз на гэты круглы стол прыязджае шмат расійскіх калег. За дзесяць гадоў у нас у гасцях пабывалі паэты, празаікі, публіцысты з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Новасібірска, Цюмені, Томска, Казані, Іжэўска, Волагды… Пералік, як кажуць, доўжыцца.

Менавіта ў выніку такіх стасункаў у Выдавецкім доме «Звязда» нарадзіліся многія кніжныя праекты: і зборнікі ў серыі «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Расія», і серыя «Сябрына: паэзія народаў Расіі», і асобныя выданні. Шмат у наладжванні стасункаў дапамагаюць пісьменнікі, якія з'яўляюцца членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, а жывуць і працуюць у Маскве ці іншых гарадах Расіі: Алесь Кажадуб, Валерый Казакоў, Любоў Турбіна, Іван Сабіла…


*Фота Кастуся Дробава.*

*Валерый Ганічаў і Мікалай Чаргінец — сустаршыні Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы (Мінск, 2009).*

**— Мікалай Іванавіч, а да самой ідэі стварэння Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы… У чым асноўная задача гэтага творчага аб'яднання?**

— Мы з Расіяй вельмі блізкія. У нас адны духоўныя памкненні, можна лічыць, што ў нас адна гуманітарная прастора. Гэта відавочна. Асабліва — для пакалення старэйшых пісьменнікаў. І, выбудоўваючы дом Саюзнай дзяржавы, умацоўваючы добрыя адносіны з Расіяй увогуле, мы, канечне ж, не можам стаяць убаку ў вырашэнні творчых задач. Ды і прысутнасць нашых беларускіх літаратараў у свеце, безумоўна, звязана з Расіяй, маскоўскімі часопісамі і выдавецтвамі, звязана з перакладамі на рускую мову. Гэта, лічу, разумеюць усе мае калегі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. І я таксама ўдзячны за такое асэнсаванне нашай творчай еднасці калегам з Масквы — найперш Валерыю Ганічаву, Генадзю Іванову, Мікалаю Іванову, якога, дарэчы, добра ведаю па «афганскіх» аповесцях з даўняга часу.

**— Колькі слоў пра праекты стасункаў на будучыню…**

— Праекты, планы будуць абмяркоўвацца на з'ездзе… Веру, што прывязём у Беларусь шмат новых ідэй, шмат новых творчых планаў. А «ЛіМ» у сваю чаргу падрабязна раскажа пра іх.

**— Дзякуй, Мікалай Іванавіч, за размову! Поспехаў працы з'езду Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы! Развіцця і плённай дзейнасці самому Саюзу! Расія, пісьменнікі Расіі — з намі, з Беларуссю, у многіх памкненнях. І гэта не можа не радаваць.**

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

# ВЯРТАННЕ ДА ЧЫТАЧА:

## гісторыя архіва Віктара Казлоўскага

**Гэты вядомы ў свой час, але напаўзабыты сёння творца быў яскравым прадстаўніком беларускай паэзіі 1920 — 1930 гг. З 1925 года В. Казлоўскі (1905 — 1975) публікаваў вершы, нарысы, пераклады ў перыёдыцы — часопісах «Маладняк», «Чырвоны Сейбіт», «Узвышша», «Полымя», газетах «Савецкая Беларусь», «Літаратура і мастацтва», "Звязда" ды інш. У 1932 г. выйшлі зборнікі яго вершаў «Слова аб юнай краіне» і «Музыка працы», паэма «Рахіль». На жаль, пасля 1936 г. паэт не публікаваўся, бо ва ўмовах атмасферы сталінскіх рэпрэсій захварэў на манію праследу. Асобныя вершы былі перадрукаваны ў «Анталогіі беларускай паэзіі» (1961; 1993) і зборніку «Універсітэт паэтычны» (1971), кнізе «Краса і сіла» (2003). Спробаў выдаць творы В. Казлоўскага асобным выданнем не рабілася — у тым ліку і таму, што на гэта не даваў згоду сам аўтар.**

Доўгі час лічылася, што асабісты архіў паэта не захаваўся. Аднак паступленне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва дакументаў крытыка Алеся Кучара ў студзені 2000 г. прывяло да нечаканых адкрыццяў. У асабістым архіве А. Кучара адшукаліся рукапісы і іншых аўтараў, у тым ліку В. Казлоўскага. Асаблівую ўвагу прыцягнуў стос аркушаў з паэтычнымі тэкстамі, аб'яднаных рукапіснай вокладкай з загалоўкам: «Віктар Казлоўскі. Аржаныя пажары». У друку канца 1920-х гг. сапраўды згадвалася, што паэт працаваў над такой кнігай, але свет яна тады так і не ўбачыла. Нечаканай знаходцы была прысвечана публікацыя Ганны Запартыкі «Песняю пасею словаў шчырых жменю…» ў часопісе «Роднае слова», разам з якой былі апублікаваны знойдзеныя пад вокладкай кнігі «Аржаныя пажары» вершы «У строях белых», «Ф. Скарыну», «Настрої». Найбуйнейшая падборка вершаў пад агульным загалоўкам «З кнігі "Аржаныя пажары"» выйшла ў альманаху «Тэксты» (2008, № 6).

Аднак крыху пазней высветлілася, што ў рукапіснай вокладцы зборніка вершаў «Аржаныя пажары» Віктара Казлоўскага ляжаў… рукапіс зборніка «Васільковы россып» (1929) Сяргея Дарожнага! Відавочна, пасля таго як зборнік выйшаў, С. Дарожны даў яго рукапіс В. Казлоўскаму, і той паклаў яго разам са сваімі паперамі. А потым усё разам патрапіла да А. Кучара.

Выпраўленню гэтай памылкі з вызначэннем аўтарства былі прысвечаныя дзве публікацыі ў тым жа «Родным слове» ў 2011 г. Дзеля «аднаўлення справядлівасці» па некалькі вершаў С. Дарожнага і В. Казлоўскага з фонда А. Кучара былі апублікаваныя пад рэальнымі прозвішчамі іх аўтараў. Захаваныя ж рэцэнзіі палітрэдактара А. Ульянава, а таксама

> *Доўгі час лічылася, што асабісты архіў паэта не захаваўся. Аднак паступленне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва дакументаў крытыка Алеся Кучара ў студзені 2000 г. прывяло да нечаканых адкрыццяў. У асабістым архіве А. Кучара адшукаліся рукапісы многіх іншых аўтараў, у тым ліку В. Казлоўскага.*

адзін з варыянтаў зместу кнігі дазволілі аднавіць драматычную гісторыю працы паэта над зборнікам, які пад ціскам палітрэдактара неадноўчы перарабляўся, але так і не быў выдадзены, і толькі частка вершаў увайшла пазней у кнігу «Слова аб юнай краіне» (1932).

Варта зазначыць, што ў лёсе паэта А. Кучар, як і А. Ульянаў, адыграў адмоўную ролю. У артыкуле «Творчыя праблемы



Віктар Казлоўскі.

савецкай паэзіі», змешчаным у № 12 часопіса «Полымя рэвалюцыі» за 1934 г., пра верш В. Казлоўскага «Тачачнік» крытык у найгоршых традыцыях вульгарнага сацыялагізму пісаў: «*…тут агаляецца класава-варожы твар Казлоўскага, які паўстае ў вобразе мучальніка-тачачніка, што нібыта на савецкай вытворчасці зламаў сабе карак. Мы гаворым тут шмат пра Казлоўскага не для таго, каб давесці, што ён халтуршчык, а таму, што такая менавіта ўяўная перабудова характэрна для многіх паэтаў з нацыяналістычнага лагеру, і супраць гэтага мы павінны абвясціць бязлітасную вайну*». Згаданы артыкул выйшаў у самым канцы 1934 г. Самы апошні на часе рукапіс В. Казлоўскага, выяўлены ў архіве А. Кучара, датаваны 1-м студзеня 1935 г. Атрымліваецца, што крытык напісаў пра паэта разгромны артыкул і адразу ж пасля гэтага завалодаў яго асабістым архівам (бо ў А. Кучара аказаліся не толькі рукапісы мастацкіх твораў, але і фрагменты асабістай перапіскі паэта). Такое магло адбыцца хіба толькі калі А. Кучар прыходзіў у кватэру ці кабінет В. Казлоўскага з вобшукам.

Цяпер збор дакументаў В. Казлоўскага ў фондзе А. Кучара налічвае 16 адзінак захоўвання (ф. 446, воп. 1, адз. зах. 340 — 356). Гэта вершы (у тым ліку чарнавыя варыянты), паэмы «Здань» (1927) і «Рахіль» (1929 — 1930), апавяданне «Смяротэльны пацалунак» (1927), гумарыстычны абразок «Братку — з працы» (1930), лісты сваякоў і сяброў. Акрамя літаратурнай спадчыны, захаваліся канспекты лекцый па курсе прафесара Я. І. Барычэўскага «Заходнееўрапейская літаратура», а таксама запісаныя В. Казлоўскім вершы рускіх паэтаў А. Апухціна і С. Надсана. І нарэшце — ужо згаданыя погляды палітрэдактара т. Ульянава на зборнік вершаў Казлоўскага «Аржаныя пажары» і верш нявызначанага аўтара (мяркуецца, што гэта Кузьма Чорны), прысвечаны В. Казлоўскаму.

Дзякуючы архіву А. Кучара, знайшлося каля 50 недрукаваных твораў В. Казлоўскага, якія даюць больш яскравае ўяўленне пра асобу паэта, яго светапогляд, дадаюць нямала істотных штрыхоў да яго пакуль яшчэ недастаткова даследаванай творчай біяграфіі. Можна сказаць, што цяпер постаць В. Казлоўскага адкрылася ў новым святле: шэраг агульных рысаў збліжае яго творчасць з паэтыкай мадэрнізму, дэкадансу, а таксама «жорсткага рамансу». Характэрная стылістычная асаблівасць многіх яго неапублікаваных вершаў 2-й паловы 1920-х гг. — ужыванне знарочыста трагедыйных вобразаў кшталту «*ўсмешкі смерці*», «*атрута слёз*», «*чорны лебедзь*», «*звон паніхідны ліп*», «*жыццё з пахам мерзлых ільдзін*» ды інш. А апавяданне «Смяротэльны пацалунак», напрыклад, цікавае як эксперымент у галіне рытмічнай прозы. І, магчыма, менавіта такі, «нефарматны», Віктар Казлоўскі акурат здолее зацікавіць сённяшняга чытача.

> *Дзякуючы архіву А. Кучара, знайшлося каля 50 недрукаваных твораў В. Казлоўскага, якія даюць больш яскравае ўяўленне пра асобу паэта, яго светапогляд, дадаюць нямала істотных штрыхоў да яго пакуль яшчэ недастаткова даследаванай творчай біяграфіі. Можна сказаць, што цяпер постаць В. Казлоўскага адкрылася ў новым святле.*

У 2004 г. у БДАМЛМ паступіў фонд фалькларыста і літаратуразнаўца Івана Цішчанкі (ф. 457). Як можна меркаваць з матэрыялаў фонду, І. Цішчанка ўжо пасля смерці В. Казлоўскага наведваў яго родную вёску Мрочкі Уздзенскага раёна, дзе сустракаўся з мясцовымі жыхарамі, у тым ліку паэтавым братам Юльянам Іванавічам Казлоўскім (1903 — 1983). У выніку ў асабістым архіве І. Цішчанкі з'явіліся копіі фотаздымкаў В. Казлоўскага, а таксама трох яго вершаў, напісаных на адваротах здымкаў; арыгіналы, як высветлілася, зберагаюцца ў пляменніцы паэта Станіславы Кавалёвай. Акрамя таго, у фондзе захоўваюцца фатаграфіі Юльяна Казлоўскага, аднавяскоўца Паўлюка Вярбіцкага, пісьменніка Васіля Сташэўскага з сям'ёй, хаты і магілы В. Казлоўскага. Цікавым дакументам з'яўляюцца і ўспаміны аднавяскоўца Аляксея Рудамінскага пра В. Казлоўскага — варыянт яго ж успамінаў «Мінулае і незабыўнае», што захоўваецца ў асабістым фондзе С. Шушкевіча. Падобна, што менавіта апошні і пазнаёміў І. Цішчанку з А. Рудамінскім.

Апошняе паступленне дакументаў, звязаных з В. Казлоўскім, — фонд заўчасна памерлага літаратуразнаўца Івана Баркоўскага (1970 — 1998), які таксама нарадзіўся ў Мрочках і даследаваў жыццё і творчасць свайго таленавітага земляка. Сабраныя І. Баркоўскім матэрыялы ўтрымліваюць і невядомыя раней факты з біяграфіі В. Казлоўскага — напрыклад,

> *Дакументы, сабраныя заўчасна памерлым літаратуразнаўцам Іванам Баркоўскім, які таксама нарадзіўся ў Мрочках і даследаваў жыццё і творчасць свайго таленавітага земляка, утрымліваюць і невядомыя раней факты з біяграфіі В. Казлоўскага. Напрыклад, некаторыя падрабязнасці развіцця яго хваробы, якія даюць тлумачэнні, чаму паэт у 1933 г. не апублікаваў ніводнага твора, — пасля таго, як у 1932-м у яго выйшлі ажно тры кнігі.*

некаторыя падрабязнасці развіцця яго хваробы: «*Познім вечарам, 12 лістапада 1932 г. аўтар, атрымаўшы ганарар, вяртаўся на кватэру. Невядомыя асобы сустрэлі яго амаль каля дома, дзе пісьменнік жыў, забралі грошы і цяжка збілі. Назаўтра раніцой Казлоўскі ўбачыў праз акно машыну службы НКВД. У той час ужо хвалі рэпрэсій падвергласа шмат інтэлігенцыі. Мільганула думка, што гэта прыехалі па яго. Вельмі перапужаўся і захварэў нервовай хваробай. Цяжкая хвароба адарвала паэта ад літ. працы, ён лячыўся ў Мінску, Маскве...*». Гэтым часткова тлумачыцца, чаму паэт у 1933 г. не апублікаваў ніводнага твора (пасля таго, як у 1932-м у яго выйшлі ажно тры кнігі).

У траўні 2014 г. адбыліся здымкі дакументальнага фільма «Страчаная песня» пра жыццё і творчасць Віктара Казлоўскага (студыя «Летапіс»; аўтар сцэнарыя Людміла Сяліцкая, рэжысёр Ігар Чышчэня). Здымачная група наведала родныя мясціны паэта. Успамінамі пра творцу падзяліліся старажылы вёскі Мрочкі: Феня Сямёнаўна Рудакоўская, Тацццяна Іванаўна Казлоўская з дочкамі Валянцінай і Аленай, Роза Трафімаўна Янушкевіч (з 1962 г. жыве ва Уздзе) і Алена Вячаславаўна Міцэвіч. У Мінску здымачная група наведала пляменніцу паэта Станіславу Юльянаўну Кавалёву, якая распавяла пра малавядомыя старонкі жыцця В. Казлоўскага.

Увосень 2014 г. фільм быў прадэманстраваны на кінафестывалі «Лістапад» і вельмі паспрыяў папулярызацыі асобы В. Казлоўскага. Працягласць фільма — усяго 13 хвілін, і, натуральна, у яго ўвайшла толькі малая частка аддзымананага матэрыялу. Аднак тое, што ў фільм не ўвайшло, захавана і, безумоўна, будзе цікавае даследчыкам жыцця і творчасці паэта.

Віктар Казлоўскі — таленавіты паэт з драматычным лёсам — паступова вяртаецца да чытача. Хочацца спадзявацца, што яго творы — у тым ліку і знойдзеныя ў архіве — рана ці позна нарэшце выйдуць асобнай кнігай.

**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік**
**Беларускага дзяржаўнага архіва-музея**
**літаратуры і мастацтва**

# Лекі ад хандры: што прапануе вераснёўская перыёдыка?




**Выдатна.** «Полымя» № 9 змяшчае інтэрв'ю Зіновія Прыгодзіча з Ігарам Лучанком. Пра жыццё знакамітага кампазітара можна даведацца з кніг Уладзіміра Ліпскага — «Басанож па зорках» і «Мелодыя душы». Але размова з творцам прываблівае шчырасцю і непасрэднасцю. Ігар Лучанок эмацыянальна характарызуе неарганічную для творчай натуры рэктарскую працу ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, згадвае гады Вялікай Айчыннай вайны, распавядае пра перыпетыі з гісторыі «Славянскага базару». Размовы Зіновія Прыгодзіча са знакавымі асобамі беларускай культуры працягваюцца — і нярэдка аказваюцца самымі цікавымі публікацыямі нумара.

**Сумніўна:** паэма Валянціны Казак «Чарнобыля бура» (пераклад з украінскай Адама Шостака). Твор украінскай паэтэсы — гэта паэма-трэнас, дзе перапрацоўкі народных песень чаргуюцца з аўтарскімі маналогамі і зваротамі да ахвяр чарнобыльскай трагедыі. Але нават калі твор напісаны на сур'ёзную і значную тэму, чытач ацэньвае яго па крытэрыі мастацкай вартасці. Паэма не надта ўражвае глыбінёй пачуцця ці пластычнасцю, суладнасцю вобразаў. Асобныя строфы выклікаюць непаразуменне. Пераклады робяць для таго, каб пазнаёміць чытача з найярчэйшымі здабыткамі замежных літаратур. Цяжка паверыць, што ў сучаснай украінскай паэзіі няма твораў, больш вартых публікацыі ў рубрыцы «Галасы свету».

**На суд чытача:** артыкул Сяргея Самахвала «Творчасць Уладзіміра Караткевіча ў балгарскай культурнай прасторы». З гэтай публікацыі можна даведацца пра сяброўства Караткевіча з балгарскім даследчыкам Георгіем Вылчавым, пра адрозненні між гістарычнымі раманамі Уладзіміра Караткевіча і Івана Вазы, пра пацешныя памылкі балгарскіх перакладчыкаў... Сяргей Самахвал пералічвае пераклады твораў Уладзіміра Караткевіча на балгарскую мову, уважліва аналізуе тэксты, але не забываецца звярнуць увагу на цікавыя моманты. Хай сабе артыкул з'яўляецца навуковай публікацыяй, пісаць пра Караткевіча нішчымна й суха проста немагчыма!

***

**Выдатна**. Ад пачатку гэты аповед не звяртае на сябе асаблівай увагі. Уладзімір Хількевіч — не такі вядомы аўтар, друкуецца нячаста, і кніг ягоных, што называецца, на слыху не згадаеш. Назва аповеду ў змесце вераснёўскага «Нёмана» — «Час нелюбові» — таксама шмат не абяцае. Як і сам аповед у першыя імгненні прачытання: салдат в'етнамскай вайны, ягоны страх, згадкі мінулага, аўтарская інтанацыя (ведаеце, як бывае ў ваенных аповедах: трошку бравуры, трошку намёкаў на лірычнасць). Але з кожным новым сказам раскрываецца разуменне, што аповед не з шараговых. І вылучае яго зусім не экзатычны складнік, а дзівоснае адчуванне аўтарам прыроды героя. Мужчына, які раптам аказваецца на пазіцыі слабага, прычым як праз «вонкавыя» прычыны (страх смерці, нязменная рызыка), так і праз глыбока асабістыя: жонка і сын аказваюцца чужымі, узнікае неразуменне між калісьці блізкімі людзьмі. А потым — удар у спіну… Дух рэмаркаўскага расчаравання пануе ў «Часе нелюбові», але назваць аповед сляпым наследаваннем наўрад ці можна. Уладзімір Хількевіч раскрывае драму арыгінальна, хоць самая драма — звычайная для ваеннага часу. Востры канфлікт прарывае атмасферу тугі і безвыходнасці, фінал аповеду робіць блізкім яго навеле — нечаканай і драматычнай. Гэты аповед — нагода звярнуць увагу на творчасць спадара Уладзіміра і чакаць новых поспехаў.




**Сумніўна**, аднак, што перанос дзеі ў экзатычныя шыроты паслужыць гарантам арыгінальнасці твора, дапаможа прыўнесці ў яго дастаткова мастацкай выразнасці. Паэтычныя эксперыменты Дзмітрыя Радзівончыка таму яркім прыкладам: так, ён насяляе вершы героямі ў самбрэра, пекнымі паўднёвымі жанчынамі, але ў выніку творы не гучаць так драматычна, як можна было б чакаць. Застаецца ўражанне сярэдняе між капіраваннем чужой стылістыкі і пародыяй.

**На суд чытача** гэтым разам прапануем рыбацкую аповесць у аповедах «На кручку» Віктара Казько. Яна не для лёгкага чытання: складаная мова аўтара (найперш — эпітэты-канструктары, ды яшчэ і ў перакладзе на рускую мову) змушае штораз спыняцца, каб візуалізаваць апісаную ім, аўтарам, карцінку; да таго ж — няпросты змест, дзе шэраг лаканічных партрэтаў памнажаецца на разгорнутыя пейзажы і філасофскія падагульненні. У празаічным майстэрстве Віктара Казько сумнявацца не выпадае, аднак у гэтым канкрэтным выпадку ён прапануе чытачу твор «на аматара».

***

**Выдатны** атрымаўся дзявяты нумар «Маладосці». Кожная з публікацый — і не толькі ў раздзеле мастацкіх твораў — заслугоўвае чытацкай увагі і асобнага разбору. Пачаць з дайджэсту фантастычнай літаратуры, які прапануе нам Святлана Курганава, і нататак пра кіно ад Кацярыны Святлаstражавай. У прозе — цэлы шэраг апавяданняў ды пара аповесцей, і кожны тэкст адметны. У дэбютантцы Ніны Лістоты — іранічнае пераасэнсаванне рамантычнай традыцыі ў нашай літаратуры; у Ягора Конева — добрая гістарычная проза, з інтрыгамі і сур'ёзнымі пытаннямі між радкоў (як і належыць гістарычнай прозе, ці не так?); аматарам фантастыкі — Сяргей Белаяр, які ў гэтым жанры самасцвярджаецца як ніхто іншы. Да гістарычнага антуражу звяртаецца Лаўрэн Юрага: аповесць «Меч Маладзіковага Промня» найперш вылучаецца моўнымі знаходкамі, да ўсяго — падобныя да «Сівой легенды» Караткевіча матывы (асабліва завязка аповесці). «Камуфляж» Алёны Беланожкі — драматычны аповед, які рэалістычна выкрывае заганы чалавечай прыроды. Не «прахадная» ў гэтым нумары і паэзія. Калі ж вылучыць некага аднаго, тут аддамо перавагу Кацярыне Мядзведзевай. Яе проза прыкметна вылучаецца ў масіве сучасных тэкстаў нязвыклай жыццярадаснасцю. Памятаеце сон Юрася Братчыка з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»? Падобныя ўражанні. Вось і цяпер у апавяданнях «Лекі ад кахання» і «Мой дзядзька Лунеш» свет паўстае дагледжаным і добраўпарадкаваным, а людзі — смелымі, здольнымі да яркіх пачуццяў і Учынку. Жывымі, адным словам. «Лекі...» Мядзведзевай насамрэч могуць стацца добрымі лекамі ад восеньскай хандры.




**Сумніўным** падаецца аздабленчае рашэнне нумара, дзе аўтараў з дапамогай немудрагелістага фотарэдактара прадстаўляюць то піратам, то велікасвецкай пані, то індзейцам. Весела, але навошта?

**Перад чытачом** гэтым разам паўстае адно пытанне: дзе ўзяць час на знаёмства з творамі, якія таго, несумненна, вартыя?

# Жаночыя гісторыі. Працяг

Юльяна Пятрэнка звярнула на сябе ўвагу апавяданнем пра жаночыя нягоды: памятаеце ліпеньскае «Полымя» і «Чужую вясну» ў раздзеле прозы? Гісторыя пра жанчыну, якая была ўвесь час добрай жонкай і гаспадыняй, слепа верыла мужу, пакуль на яе парозе не з'явілася маладая прыгажуня з жаданнем пабачыць таго самага мужа. І не проста пабачыць, як лёгка здагадацца.

Гісторыя тая скончылася хэпі-эндам, што троху папсавала ўражанне ад твора, але не ад майстэрства аўтаркі. Юльяна Пятрэнка выявіла ўвагу да значных дробязей, пранікліва адчуванне жаночых горасцей, крыўды і сумневаў датычна падвялай ужо прыгажосці. Словам, да ўсяго, што адчуваюць штодзень тысячы жанчын і дзяўчат, але на што суровыя дзядзькі ад літаратуры звяртаюць мала ўвагі: балазе, хапае больш значных праблем — войны, глабалізацыя, крызіс сярэдняга ўзросту (мужчынскі, вядома).

Няцяжка заўважыць: найноўшая літаратура, па вялікім рахунку, ігнаруе побытавыя праблемы жанчыны, «лірычны» складнік іх жыцця. Зноў жа, калі не браць пад увагу паэзію, дзе жанчына сама выказвае свае крыўды да вялікага свету. У перспектыве такое ігнараванне абяцае хоць бы і маленькі, але бунт. Бо апошняя кропля ў рэшце рэшт здараецца.

Гэтую нішу — даследаванне мікрасусвету жаночага быцця — зойме Юльяна Пятрэнка, калі будзе працягваць у той жа творчай манеры. Наступным крокам стаў аповед «Спадчынніца» ў вераснёўскім «Нёмане». Заўважым, не пераклад з беларускай: руская — арыгінальная мова твора.

Гэтым разам замест раптоўнай драмы яна ўзяла асабістую гісторыю, прытым — з дзяцінства, якая ў выніку адбіваецца ў сучаснасці, з недамоўленым пераходам у будучыню, праз дачку аўтаркі/гераіні. Гэты ланцужок — «дачка — маці — дачка» — фармальна пацвярджае словы Эклезіяста пра «нішто не новае на зямлі», толькі выказванне гэтае датычыць пэўнага складніка жыцця: стасункі між дзяўчатамі і хлопцамі і стаўленне першых да апошніх. Рамантычныя мары ў суправаджэнні завышаных чаканняў — і рэчаіснасць з расчараваннем, калі гераіня пазбаўленая пачуцця гумару, ці мудрай усмешкай жанчыны, якая тым пачуццём шчодра надзеленая. Юльяна Пятрэнка звязвае два вельмі далікатныя светы: свет дзяцей і свет жанчын. Дух аповеду нагадвае нам пра «Маленькіх жанчын» Луізы Мэй Олкат. Маштаб, вядома ж, не той, але сутнасць дзявочай натуры перадаецца падобна.

Пры гэтым аўтарка захоўвае ненавязлівы, так і хочацца сказаць «жыццёвы», гумар, якім запомнілася яшчэ ў «Чужой вясне». Яна назірае за сваімі маленькімі гераінямі адначасова з пяшчотай і крытычнасцю, якая дазваляе і замілавацца, і пасмяяцца. Асобныя тэмы, якія закранаюцца цягам развіцця сюжэта, спакушаюць на працяглыя развагі, а там недалёка і да пафасных падагульненняў кшталту «хлопчыкам не зразумець таямнічай дзявочай душы». Юльяна Пятрэнка гэтых лірычных адступленняў пазбягае. Што не дае аповеду зацягнуцца і дазваляе закрануць іншыя тэмы. Хоць бы і ўскосна, але аповед падштурхоўвае да роздуму над лёсам старога чалавека, які застаецца самотны (у вёсцы гэты стан асабліва гнятлівы), наводзіць на думкі пра стасункі між пакаленнямі, на нюансы выхавання дзяцей, на адрозненні жыцця вясковых і гарадскіх людзей. «Спадчынніца» чытаецца вельмі лёгка, літаральна прабягаецца вачыма, але пры гэтым паспявае раскрыцца, паказаць недагаворанае, тым самым інтрыгуе. Нягледзячы на лёгкі, жартаўлівы тон, гэты аповед глыбейшы, чым падаецца на першы погляд.

З нецярпеннем чакаем новую публікацыю аўтара.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Анёл Фё Фё: ці паспрыяе?

Згоду ў год, з публікацыі ў публікацыю пералік аўтараў, якія ствараюць «залаты фонд» беларускай падлеткавай прозы, застаецца нязменным. Насамрэч, падлеткавая аповесць — не самы складаны літаратурны жанр, хоць патрапіць у аналы сусветнай класікі з такім творам зусім няпроста. Пры спрыянні рэдактараў і выдаўцоў у нашай краіне штогод магло б з'яўляцца некалькі кніг з імёнамі новых аўтараў — а цікавасць з боку падлеткаў, як сведчаць настаўнікі і бібліятэкары, заўсёды ёсць.

«Маленькая аповесць» Алы Саскавец пад назвай «Дзяўчынка а-ля Мірэй» патэнцыйна магла б патрапіць у зборнік падлеткавай прозы. Вельмі важнай падаецца сімпатыя аўтаркі да галоўных герояў — дзяўчыны і юнака, якім даводзіцца вырашаць складаныя для свайго ўзросту праблемы. Ды шчырае імкненне выклікаць паразуменне з боку чытачоў і паказаць добры прыклад тым, хто апынуўся ў аналагічнай сітуацыі.

Што рабіць, калі табе сямнаццаць, бацькі выпіваюць, грошай няма, а жытло — не ўтульны дом, а проста месца прапіскі? Ала Саскавец прапануе засяродзіцца на вучобе, знайсці добрага сябра і пашукаць магчымасць заробку на вёсцы, дзе так шмат старых, якія чакаюць дапамогі і могуць аддзячыць за працу. Гэта варыянт для юнака, а дзяўчына з прычоскай а-ля Мірэй ужо мае свайго анёла-ахоўніка — мудрую суседку Фёклу Фёдараўну (Фё Фё), якая замяняе ёй няўдалую маці.

Нават у складаных абставінах трэба заставацца добразычлівым, не губляць веру ў людзей, ратавацца ад песімізму — і ўсё абавязкова атрымаецца! Аповесць можа падацца крыху наіўнай, тут бракуе псіхалагізму, а вось дэталей, якія сведчаць пра гаротнасць галоўных герояў, хапае нават з лішкам. «Маленькая аповесць» магла б стаць добрай парадай і суцяшэннем для дзясяткаў чытачоў. Між тым твор апублікаваны не ў «Бярозцы» ці «Маладосці», разлічаных на моладзевую аўдыторыю, а ў «дарослым» часопісе «Полымя».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Прадчуванне верша

**У 2016 годзе Рагнед Малахоўскі выдаў тры паэтычныя зборнікі — «Клічнікі дажджу», «Кахання радок», «Выгнаннік дзьмухаўцовага раю». Аднак пакуль што пабачыць іх можна не на паліцах сталічных кнігарняў, але на віртуальных паліцах электроннай бібліятэкі *kniharnia.by*. Гэтая практыка, яшчэ недастаткова пашыраная на прасторах беларускага літпрацэсу, заслугоўвае асобнага разгляду. А вось прапанаваць чытачу ажно тры кнігі адразу — рызыкоўны намер. І ён, безумоўна, не можа застацца без водгуку.**

Асэнсаванне паэзіі Рагнеда Малахоўскага амаль заўсёды распачынаецца з гаворкі пра яго асобу. Разумею чаму. Р. Малахоўскі — асоба сапраўды вельмі яркая і, калі можна так сказаць, наскрозь паэтычная. Часам складаецца ўражанне, што ён пераўтварае ў паэзію кожны свой крок і кожны подых. У другую чаргу абавязкова адзначаецца, што, нягледзячы на распаўсюджаныя ў сучаснай паэзіі моўныя і рыфматворчыя эксперыменты, Р. Малахоўскі застаецца адданым класічным формам. Гэта своеасаблівы паэтычны імідж: класіка ў паэзіі і паэзія як стыль жыцця.

## ПЫТАЛЬНІКІ І КЛІЧНІКІ

Паэтычны зборнік «Клічнікі дажджу» распачынаецца вельмі моцным вершам «Валун». Гэта адзін з самых удалых вершаў ва ўсёй кнізе. Аднак паганская тэматыка не дамінуе ў вершах Р. Малахоўскага, яна з’яўляецца раз-




пораз, як і хрысціянскія матывы. Ні тое, ні другое не ўступае ў супярэчнасць, бо не з’яўляецца для паэта вызначальным. Яго захапляе любая з’ява як магчымасць для стварэння вобраза. Паэту ўдалося знайсці спосаб настолькі «ўжыцца» ў ролю старажытнага народнага талісмана, каб заўважыць нават тое, як *«глыбелі крывыя маршчыны, што палеглі на твар валуна»*. У гэтым вершы няма аніводнага лішняга радка, і гэта адрознівае яго ад усіх астатніх, змешчаных у зборніку.

Абсалютная большасць вершаў, якія распачынаюцца захапляльнымі вобразамі і нечаканымі метафарамі, раптам абрываецца выпадковым наборам слоў або ланцужком недарэчных асацыяцый. Увогуле адвольна-непрадказальнае спалучэнне слоў у радку — адметнасць усіх вершаў Р. Малахоўскага. Часам гэта ўспрымаецца нават як памылка ці, прынамсі, недрэчнасць *(«Край мой пачынаецца / На ўскрайку / незлічонае вады»; «Полем памяці белыя коні / Прад вачыма імчацца маланкай»; «Я прама ў вочы злой бядзе / Скажу намеры»)*. Атрымліваецца так, што аўтар сапраўды заваблівае чытачоў вывамі болю, пакуты або ўзнёслага пачуцця, а пасля нібы знікае ў слоўнай бездані.

Кніга пазіцыянаваная як зборнік грамадзянскай лірыкі ў тым ліку, але нават самыя палымяныя паэтычныя прамовы, якія сапраўды закранаюць важныя праблемы беларускай рэчаіснасці, наўрад ці могуць атрымаць адпаведны водгук, бо яны вылываюць зніадкуль, аніяк не нематываваныя папярэднім зместам верша. Замест таго, каб успрыняць аўтарскі роздум *(«Мовапрадаўцам — пакаранне!»)*, пачынаеш разважаць, адкуль гэтая выснова ўзялася.

Можна сказаць, што ў зборніку «Клічнікі дажджу» існуе адзіная схема, паводле якой пабудаваныя ўсе вершы: моцны, уражвальны пачатак, працяг роздуму з паглыбленнем у інтымныя перажыванні героя, заканчэнне з выпадкова падабраных слоў, якія аніяк не стасуюцца і не суадносяцца з папярэднім зместам, аднак вельмі ўдала складаюцца ў радкі.

Рагнед Малахоўскі, безумоўна, майстар паэтычнага вобраза. Ён умее ствараць яркі, запамінальны вобраз з самых звычайных слоў, паставіўшы іх у нязвыклае спалучэнне, супаставіўшы нязвыклыя адценні сэнсаў. Аднак часам гэтае ўменне выкарыстоўваць нязвыклыя кантэксты прыводзіць да таго, што надзвычай цікавы і арыгінальны вобраз губляе сваё гучанне ў слабой канцоўцы сярод выпадкова падабраных слоў дзеля захавання рытму.

Калі лірычны герой кажа: *«На аркуш поля боязна ступлю»*, — то я яму не веру, бо «ступае» ён акурат вельмі смела. Словы складаюцца ў радкі лёгка і нязмушана, радок арганічна нанізваецца на радок, але калі чытач прыпыніцца і паспрабуе зразумець, якую паэтычную выяву прапаноўвае аўтар, то вымушаны будзе прызнаць паразу:

*За мною сочыць, быццам шэры цень,*
*Халодны позірк шчасця ліхадзейны.*

Вядома, можна разважаць, што гэта паэтычны вобраз, а ён, як усім вядома, не мусіць падпарадкоўвацца логіцы, а ў межах унікальнага аўтарскага ўспрымання і ўвогуле можа апеляваць да самых нечаканых асацыяцый і параўнанняў. Гэтай фармулёўкай вельмі часта і паспяхова тлумачыцца любая недарэчнасць у мастацкім творы. Аднак мне падаецца, што калі толькі недарэчнасць як такая не ёсць маніфест мастацкага кірунку альбо калі яна не ўводзіцца ў твор наўмысна, то яе існаванне ў мастацкім тэксце апраўдаць няма чым.

У гісторыі літаратуры вядомыя выпадкі, калі паэтам, нават даволі знакамітым, не дазвалялі чытаць у рэдакцыях літаратурных выданняў свае творы ўголас. Гучалі вершы цудоўна, асабліва ў аўтарскім выкананні, але калі рэдактар аказваўся сам-насам з тэкстам, то разумеў, што, страціўшы гучанне, верш страчвае і сэнс. Калі прамаўляеш вершы Р. Малахоўскага ўголас, то чуеш сапраўды чароўную казку, калі ж спрабуеш успрымаць словы, надрукаваныя на паперы (хай сабе і электроннай), то губляешся, як і сам паэтычны твор, ён нібы знікае на паперы, разбіваецца на аскепачкі вобразаў і слоў.

Верш «Клічнікі дажджу», які даў назву зборніку, распачынаецца пранізлівым прызнаннем:

*Цалуюць шыбу*
*Клічнікі дажджу,*
*Пытальнікам*
*Скруціў лістоту вецер.*
*Найлепшы час*
*Прызнаць,*
*Што не жыву, —*

Напружанне паэтычнага роздуму перадаецца чытачу, за гэтымі радкамі чакаеш нейкага глыбокага падсумавання, але замест гэтага атрымліваеш… банальны радок:

*Страшнейшае*
*Расчараванне ў свеце.*

Магчыма, паэту нестае вытрыманасці, каб дадумаць вобраз, давесці яго да паэтычнай завершанасці.

Напрыканцы зборніка змешчаны шэраг вершаў, прысвечаных паэту і паэзіі. З’яўленне такіх вершаў непазбежна і сведчыць пра пэўны ўзровень творчай эвалюцыі, калі паэт усвядомлена ўспрымае сваю творчасць не як занятак у вольную хвіліну і нават не як непарыўную частку свайго жыцця, але як сваю першасную існасць. Таму вершы Р. Малахоўскага, прысвечаныя, так бы мовіць, сваёй уласнай паэзіі, выклікалі ці не найбольшае зацікаўленне. Бадай самым ілюстратыўным ёсць «Мой верш»:

*Ды шчырасць загартуе болем сэрца.*
*Стрывае аркуш праўдзішча быцця.*
*Праб’ецца між сівых каменняў*
*дрэўца —*
*Мой верш — мой боль*
*Зялёнага жыцця.*

Адзін з самых шчырых вершаў у зборніку. У ім няма заззвычаенай позы паэта, які мусіць увесьчасна пакутаваць, у ім сапраўды адчуваецца — боль і шчырасць. Як жа кантрастуе з «Маім вершам» верш «Мастак», прысвечаны, па сутнасці, той жа тэме, хаця героем і выступае мастак, а не паэт:

*Ты малюеш хвіліны ліхія,*
*Што разбіліся ў звоне бакала.*
*Ды не верыш у сны дарагія*
*Між цяністых кутоў карнавала.*

Вось тут бачыцца толькі поза, адноўленая са створаных усімі ранейшымі пакаленнямі паэтаў вобраза, ды яшчэ і з моўнымі недакладнасцямі.

Невыпадковым падаецца тое, што «Мой верш» пазначаны двума датамі (2003 г. і 2014 г.). Можа, для таго, каб выспеліць верш такога ўзроўню, сапраўды патрэбна некалькі гадоў.

## КАХАННЕ НА ПАПЕРЫ

Зборнік вершаў «Кахання радок» мае падзагаловак, які гаворыць сам за сябе: «Вершы пра ўзаемнае і неўзаемнае».

У анатацыі пазначана, што *«юначыя жарсці і пачуцці да дзяўчыны цесна пераплятаюцца з любоўю да свайго роднага нарачанскага краю»*. Тое, што Радзіма паўстае ў творчасці паэта часам у вобразе каханай дзяўчыны, — не навіна для беларускай літаратуры. Але ў зборніку няма ані вобраза каханай дзяўчыны, ані вобраза Радзімы, а толькі рамантызаваная постаць паэта, які захапляецца… неістотна, кім. Нібы пратэстуючы супраць гэтага ўдаванага пачуцця, лірычны герой і сам выгукае:

*О, колькі ў думках мрою мілаваць,*
*Прыдуманыя вусны цалаваць,*
*Душу каханнем выдуманым грэць.*

Вельмі добрае азначэнне ёсць і ў вершы «***Каханне паэтэсы да паэта» — *«каханне на паперы»*. Бадай, гэтае азначэнне як мага лепей падыходзіць да характарыстыкі інтымнай лірыкі Р. Малахоўскага: не выяўленне пачуцця ці нават настрою, але толькі ўвасабленне паэтычнага міфа кахання.

Каханне — тэма, вядома, вечная, хаця і небяспечная. Пасля ўсяго сказанага ўжо амаль немагчыма быць арыгінальным. Аднак Р. Малахоўскі ўсё ж прапаноўвае нам «радкі кахання», якія будуць пачутыя не толькі той, каму прысвечаныя («***Це нем затуманенага саду», «Блуканні»),




а самымі кранальнымі, дзеля якіх і варта было заглыбляцца ў чытанне, мне падаліся вершы эратычнага зместу — «***Трывожная ноч» і «Ласунак».

*Ласунак лепшы*
*Для мяне —*
*Кропелькі*
*Ажынавага соку,*
*Што марамі*
*Шчаслівага юнацтва*
*Коцяцца па тваім*
*Бурштынавым целе…*

Варта адзначыць, што абодва гэтыя вершы — адны з нешматлікіх нерыфмаваных у разгляданых зборніках. Мабыць, гэта дало магчымасць паэту, адданаму класічным традыцыям вершаскладання, крыху разняволіць творчы пошук.

## ЗАКІНЕМ ВУДУ?

Менавіта ў кантэксце такіх разважанняў можна абмяркоўваць і зборнік філасофскіх імпрэсій (аўтарскае вызначэнне жанру) «Выгнаннік дзьмухаўцовага раю». Частка гэтых імпрэсій, праўда, была змешчана напрыканцы зборніка «Кахання радок», што падаецца неапраўданым, калі планавалася сабраць усе імпрэсіі-замалёўкі пад адной вокладкай.

*«Створаныя ў штодзённай мітусні»*, не ўсе імпрэсіі перажылі гэтую мітусню. Нешта, мяркую, засталося адно ў тым дні, калі стваралася, таму да паэтычнага ўспрымання чытача, які ў любым выпадку знаходзіцца па-за часам, нават калі з’яўляецца сучаснікам аўтара, дойдзе не ўсё. У некаторых імпрэсіях няма заяўле-




нага філасофскага роздуму, у некаторых створаныя паэтам вобразы гучаць камічна, хаця наўрад ці гэта было мэтай аўтара *(«Паўлітра разлітага пах у вагоне метро. / Ля чаравікаў віецца тонкі ручаёк»)*.

Аднак як майстар найперш запамінальнага паэтычнага вобраза, Р. Малахоўскі, безумоўна, выявіў у гэтым жанры сваю творчую адметнасць.

Складаецца ўражанне, што тое своеасаблівае прадчуванне верша, якім поўняцца многія старонкі зборнікаў «Клічнікі дажджу» і «Кахання радок», знайшло нарэшце ў «Выгнанніку з дзьмухаўцовага раю» сваё паўнавартаснае ўвасабленне. У творчасці Рагнеда Малахоўскага багата непаўторных, цікавых, арыгінальных вобразаў, але мала выспеленых, закончаных вершаў. Яго творчасць можна разабраць на цытаты, але вельмі цяжка выбраць верш, які б хацелася завучыць на памяць.

Таму, чытаючы імпрэсіі Р. Малахоўскага, міжволі прыходзіш да высновы, што паэту варта паспрабаваць развівацца менавіта ў такім кірунку.

*На дне ракі*
*незлічоныя скарбы*
*чакаюць сваіх шукальнікаў.*
*Прыйшоў на бераг рыбак,*
*вуду закінуў…*

Перафразуючы паэта, скажам, што закінуў вуду чытач. Важна, каб у імкненні адшукаць закінутыя на дно паэтычнай ракі-кнігі скарбы ён не быў падмануты.

**Жанна КАПУСТА**



Валеры МАКСІМОВІЧ

## Крык жураўкі

*Дзянькі залатыя сыходнага лета.*
*Сцішэлая радасць — грыбная пара.*
*Прымроеным сонцам зямелька сагрэта,*
*Што шмат навыспельвала людзям дабра.*

*Як хораша ў лесе! Як пахне грыбніцай!*
*Здаецца, ў дзяцінства патрапіў наноў…*
*На ўсколенцы моўчкі бы стаць і маліцца*
*Ля выспаў лясных, ля сівых курганоў.*

*Ды раптам — як стрэл агнядышны*
*і даўкі —*
*Сярод непарушнай ляснoe цішы*
*Пранізлівы крык адзінокай жураўкі*
*Дрыготкую далеч суздром аглушыў.*

*Ах, колькі самоты было ў ім і жалю,*
*І роспачы — скрушнай, журботнай,*
*глухой, —*
*Бы з крыкам птушыная вера канала —*
*Няўмольна сыходзіла долу крывёй.*

*Я ўраз здрыгануўся, жахотай працяты,*
*Бы крык той галосны мне сэрца апёк…*
*А рэха ляснoe нязмоўклым набатам*
*Гукала — так сумна, так слёзна —*
*здалёк.*

*Ў знямоглым здранцвенні стаяў я,*
*бядотны,*
*І згадка адна біла ў скронь усё мацней:*
*Нібыта ў жураўкі, у час прадсмяротны*
*Крык вырваўся з маміных хворых грудзей.*

*Жураўка, мне з памяці тое не сцерці —*
*Хай будзе зарукай і сведкаю час —*
*Не ў рэху лясным — у засмучаным сэрцы*
*Твой роспачны крык адаб'ецца не раз.*

*Хачу з гэтай вераю жыцца, зрадніцца*
*І на скрыжаванні дарог і шляхоў*
*За маму — жураўку маю — памаліцца,*
*Збуджаючы памяць прасветлых гадоў.*

***

*Восень. Дажджыць часамі.*
*Одум цяжкі, каляны…*
*Зноў на грудок, дзе мама,*
*Сумна й маркотна гляну.*

*Час такі непагодны —*
*Слота ў душы і ў небе, —*
*Скрутны ён і бядотны —*
*Спрэс не такі, як трэба.*

*Скуль жа яна ўзялася,*
*Зболеная часіна,*
*Што спавіла не ласкай —*
*Доліцай нешчаслівай?*

*Скуль жа замест паўдзёнка —*
*Шэрані змрочнай цені,*
*Што ад макрэчы золкай*
*Сцішыліся, знямелі?*

*Ой ты, радненькі браце!*
*Ой ты, мая сястрыца!*
*Без даражэнькай маці*
*Як жа мне не журыцца?!*

*Ў смутку сваім, ў няшчасці*
*Буду гукаць да ранку…*
*Мо прычакаць удасца*
*Маму маю на ганку.*

*Родная, не маўчы ты,*
*Любая, адгукніся!*
*Ў цемры густой, знябытнай*
*Ты не знікай — знайдзіся.*

*І не зважай, што неба*
*Плача дажджом няспынным.*
*Можа, яно й так трэба:*
*Ёсць жа на ўсё прычына.*

*Ты ў маім сэрцы, мама,*
*З табой я вякую, роднай.*
*Таму й не самотны самы,*
*Не самы, мама, гаротны.*



Нэлі КУТАС

***

*Любоў да маці, да блізкіх*
*Пачынаецца з той зямлі,*
*Дзе да выраю над калыскай*
*Адляталі штогод жураўлі,*

*Дзе зімою снежнай сумёты*
*Да страхі замяталі хаты,*
*Дзе заўсёды ведалі, хто ты,*
*І душою былі багаты.*

*Дзе бяду падзялялі супольна,*
*Дзверы ў хатах не замыкалі*
*Са слязамі радасці й гора,*
*І спявалі, і працавалі…*

*Маладыя! Хоць раз азірніцеся:*
*Вам пакінулі продкі багацце!*
*Дык з павагаю ім пакланіцеся*
*І зямлі — нашай роднай маці.*

***

*Прыпяць, рачулка маленькая Віць,*
*Могілкі… Зноў душа забаліць.*
*Маленькая хатка, бабуля ў двары*
*старая.*
*«Чаму не з'ехалі? — мы ў яе пытаем. —*
*Тут радыяцыя, тут небяспечна…» —*
*«Дзеткі мае, усё ў свеце не вечна.*
*Жыву на радзіме сваёй,*
*Дзе нарадзілася, там і прыдалася ёй.*
*Тут жа мае карані,*
*Усё тут маё, куды ні зірні:*
*Поле і лес, лугавыя кветкі…*
*Тут у мяне нарадзіліся дзеткі,*
*Муж мой даўно ўжо тут пахаваны.*
*Зямелька цяпер мне загойвае раны…*
*Чарнобыль, Чарнобыль, ты што*
*нарабіў?!*
*Навошта зямлю маю ты загубіў?!»*
*…Глядзяць нам услед галінкі бяроз,*
*Конікі ў травах стракочуць.*
*Праводзяць нас поўныя горкіх слёз*
*Старэнькай бабулі вочы…*



Фота Кастуся Дробава.



Вольга НОРЫНА

## Я ўдзячна інэту

*Я ўдзячна інэту: у свеце інэту*
*Паэту лягчэй сустракацца з паэтам.*

***

*Спачатку, амаль філосаф,*
*Сама з сабой у барацьбе,*
*Ты ставіш пытанні востра,*
*Не думаеш пра сябе.*

*А можна пражыць без слова,*
*Спакойна, у ціхай журбе.*
*Скажы сабе: ты гатова*
*Змяніцца — здрадзіць сабе?*

*У цень адступіць са сцэны,*
*Усім даравацъ грахі,*
*Змірыцца, калі не ацэняць*
*Радок, табе дарагі.*

*Дарэмна нагадвае памяць,*
*Што гэта балюча — агонь:*
*Ты полымя ў рукі хапаеш*
*І, быццам спартсмен, —*
*Бягом!*

## Раўную да рыбы

*Няважна, што ні гуку пра любоў,*
*Няважна, што зрываецца, бывае, —*
*На рэчцы, ахвяруючы сабой,*
*Здымае рыба стрэс і нежывая.*
*Грахі твае замольвае спаўна,*
*Няважна, што халодная, нямая.*
*Яе падсмажыць жонка,*
*З'есць адна —*
*Адпомсціць так, што дні на два знікаеш.*
*Рукамі пры сустрэчы абаўеш*
*І гэтак, у абдымках, мне раскажаш*
*Аб тым, як доўга ты лавіў яе*
*І кайф здабычы захаваў, уражлівы.*
*Не спала гэта страсць твая па часе…*
*Прыцісне́ш у парыве.*
*О Божа, хто паверыць —*
*Дажылася:*
*Раўную я да рыбы.*

## Юбілей

*Павер'е існуе ў народзе:*
*Каб жыць без крыўды і пакут,*
*Мы выбіраем дзень народзін,*
*Сваіх бацькоў, свой родны кут.*

*Ах, мама, любая, пяшчотная!*
*Самкнуўся ў жальбе веку круг:*
*Не ўбачу ямачак на шчочках,*
*Не пацалую добрых рук.*

*Матае горыч кіламетрамі*
*Мой шлях зямны, бяда мая.*
*Дачка, як і раней, па метрыцы,*
*«Дачушкай» больш не буду я.*

*Цяпер здзяйсняць свае задумы*
*Без мамы, без яе цяпла,*
*Ды ўсім сябрам расказваць сумна*
*Пра тое, як яна сышла.*

*З апошніх высілкаў трымаюся,*
*Не ведаю, як жыць далей.*
*На могілках, у таты з мамаю,*
*Гасцюю першы юбілей.*

*Вятрамі клятая і мятая,*
*Забыўшы голля паўустаў,*
*Ляціць, разнятая на атамы,*
*Душа асенняга ліста.*

*Я сірата — за стратай страта,*
*І думка мучыць нездарма,*
*Што выбірала дзень для свята*
*І лёс без свята я сама.*

## Аднакурсніцам

*Не думалі, што будзе надалей,*
*І верылася: шчасця кіламетры…*
*Я добра помню той вясновы ветрык*
*І прахалоду паркавых алей.*
*Маім сяброўкам мроіцца у сне,*
*Што маладосць дасюль жыве ў сталіцы,*
*Што варта ім у Мінску зноў з'явіцца,*
*Адразу гора горкае міне.*
*І з плечукоў зляціць гадоў пасаг…*
*Ды толькі прапісалася юнацтва*
*Даўно па невядомых адрасах,*
*І зноўку нам ніколі не спаткацца.*

## Завяшчанне

*Пазначце на абеліску,*
*Калі абарвецца дарога:*
*«Вольга, мама Дзяніскі».*
*І болей — нічога!*

**Пераклаў з рускай**
**Мікола МАЛЯЎКА**

***

**Тамары**

*Сярод турбот тваіх карункаў*
*Прасвет не лішні.*
*Прынёс, Тамара, падарункі*
*Ізноў кастрычнік.*
*Няхай гады ідуць павольна,*
*І дні — старанна.*
*Адзіны рай бывае ўвосень —*
*Празрысты ранак.*
*Жыццё хай радуе заўсёды*
*І, як калісьці,*
*Няхай на шчасце будзе шчодрым,*
*Бы клён на лісце.*

***

*Ды насамрэч: ці варты гэты горад*
*тугі аб ім?*
*Бо для яго тваё маўчанне*
*і твой адчай —*
*Нібыта дым…*

## Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»



Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# РЫТОРЫКУ Ў МАСЫ!

*Эсэ*

Прыкладна ва ўзросце аднаго-двух гадоў кожны з нас пачынае гаварыць. Гэтыя першыя словы карыстаюцца надзвычайнай увагай у нашых блізкіх: яны з радасцю падхопліваюць і «агу», і «вава», і «бобо», і таму падобныя выказванні не пазбаўленыя пэўнай абаяльнасці, але і не асабліва напоўненыя сэнсам.

— Разумнік ты наш!

З цягам часу ўвагі і замілавання да таго, што кажам, мы атрымліваем усё меней. Тыя самыя бацькі, што яшчэ гадоў пяць таму так радаваліся кожнаму слову, цяпер усё часцей паўтараюць:

— Не перашкаджай!

— Цішэй!

— Памаўчы!

Мы сталеем, вучымся ў школе, ва ўніверсітэце, ідзём працаваць, несучы на падкорцы ўсе гэтыя «памаўчы». Не дзіва, што гаварэнне перад аўдыторыяй (нават калі той аўдыторыі ўсяго паўтара чалавека) становіцца праблемаю для многіх грамадзян. Яны, вядома, могуць пракручваць патрэбныя словы ў галаве, сяктак стасавацца з адным суразмоўцам, аднак гаварэнне як высокае мастацтва для іх, як ні сумна, недасяжнае.

Але выхад ёсць. І не трэба нават напіхваць у рот каменьчыкаў, як некаторым Дэмасфены, або лезці ў бочкі, як іншыя старажытнагрэчаскія дзівакі. Усё, што вам трэба, — гэта запомніць некалькі простых схем, якія варта ўзяць на ўзбраенне ў паўсядзённым жыцці.

Як вядома, гаварыць даросламу чалавеку даводзіцца ў самых розных сітуацыях і з самых розных нагод. Здаецца, так складана, так невыносна цяжка. Але насамрэч усе гэтыя сітуацыі можна звесці ўсяго да трох тыпаў. Па-першае, гаварэнне за сталом, у тым ліку непасрэдна падчас застолля. Па-другое, гаварэнне з трыбуны. І, па-трэцяе, гаварэнне без стала і без трыбуны, так бы мовіць, у натуральным выглядзе.

Застольнае гаварэнне часам лічыцца самым простым з усіх пералічаных. Не дапускайце фатальнай памылкі: усё зусім не так лёгка. Мы былі асабіста знаёмыя з застольным залатавустам, аўтарам шматлікіх удалых тостаў ды віншаванняў, рэпутацыя якога была бяздарна загублена, назаўжды знішчана самай звычайнай ласасінай. Такі ласасіны фатум.

— Як добра, што мы ўсе сёння тут… — пачынаў залатавуст, упіраўся вачыма ў спакуслівага пяшчотна-ружовага ласося і змаўкаў, пускаючы сліну. І так некалькі разоў запар. Усё, што ад яго дамагліся ў выніку, — гэта няўцямнае «і шматкроць яшчэ вып'ем», ледзьве выціснутае праз набіты смажаным рыбаю рот.

Запомніце цвёрда: багаты стол — ваш найпершы вораг. Нават калі апусціце вочы долу, каб не бачыць вынікаў перамožнай фантазіі кухара, сэрцы тых, хто мусіць вас слухаць, будуць нязменна прыцягвацца гладкімі бакамі адкаркаваных бутэлек, і курынымі ножкамі, і салёнымі гуркамі. Некаторыя профі ў такіх выпадках стукаюць нажом або відэльцам па сваёй шклянцы, прыцягваючы ўвагу. Але вельмі часта гэты імправізаваны набат патанае ў радасных воклічах:

— І мне, і мне мяска, Іван Сямёнавіч!

— Між іншым, гэтыя вось рулецікі ніштаватыя такія, асабліва пад…

— Помню, у дзевяноста дзявятым мы неяк…

Запомніце: што б вы ні збіраліся сказаць, нават калі хочаце праліць святло на прызначэнне жыцця ў Сусвеце, вы аніяк не можаце канкураваць з духмяным гарачым, унесеным за паўхвіліны да пачатку вашага выступлення.

Таму выпрацоўвайце стратэгію. Назірайце ўважліва. Як толькі звон прыбораў трохі ўляжацца, як толькі большасць сыта прываліцца да спінак сваіх крэслаў, аціраючы сурвэткамі масляныя вусны, ведайце: час прыйшоў. Улічыце, праўда, што ў большасці гасцей старэйшага пакалення за сталом спрацоўвае так званае правіла трох хвілін: кожныя тры хвіліны мусіць гучаць тост і спусташацца чарка. Таму паспрабуйце ўціснуць сваю грунтоўную прамову — пра мэту жыцця як такога, пра будову Сусвету і імклівае развіццё тэхналогій — у гэты сакраментальны тэрмін.

Увогуле, чым меней — тым лепей. Сцісласць не проста сястра таленту, а ў дадзеным выпадку яго замяняльнік, ідэнтычны натуральнаму.

Напрыклад:

— Сёння ў нас юбілей Настассі Сяргееўны, які адзначаем такой цёплай кампаніяй. У хуткім часе касмічныя караблі, сябры мае, стануць баразніць самыя аддаленыя куточкі космасу, і з гэтай прычыны, я лічу, варта падняць нашыя келіхі.

Так задаволеныя ўсе: і юбілярка, пра якую пасля гарачага ўсе неяк забыліся, і вы, які паспяхова бліснуў эрудыцыяй, і вашыя суседзі, якія, па шчырасці, пачулі толькі апошнія словы. Але колькі здаровага энтузіязму, колькі ўтульнай радасці падымецца ад такой прамовы, з якім імпэтам пачнуць усе чокацца, на розныя лады пераварываючы вашыя словы. А прыемна ўражаная юбілярка паглядзіць на вас з непрыхаваным замілаваннем і пачне падкладаць на талерку найлепшыя кавалкі.

Калі ж, празмерна натхніўшыся, зацягнеце прамову, сцеражыцеся. Злосныя госці будуць касавурыцца на вас, з сярдзітым скрыгатам ганяючы відэльцамі па талерках рэшткі недаедзенай салаткі.

І атмасфера на юбілеі пачне ўсё болей і болей нагадваць хаўтурную: паўсюль поўныя скрухі твары, сумна ўтаропленыя ў стол (каб не бачыць свіную рульку) вочы. Хтосьці потайкам падчэпіць кружок каўбасы, закіне ў рот і, сарамліва прыкрыўшыся далонямі, пачне жаваць.

Калі б вас так не займала вашая прамова, вы, канечне, адчулі б тую канцэнтраваную нянавісць, якая сыходзіць і ад шаноўнай юбіляркі, і ад яе гасцей. Так выпрабоўваць людзей, нават самых вытрываных і дабрачынных, не варта. Існуе вялікая верагоднасць атрымання ў карак. І ніхто-ніхто-ніхто ў цэлым Сусвеце за вас не заступіцца!

Гаварэнне з трыбуны звычайна ўяўляецца болей урачыстым — хаця б тым неабазнаным людзям, хто не часта бачыць гэтыя самыя трыбуны. Так і ёсць, па вялікім рахунку, ды і аўдыторыя ў такім выпадку значна большая. Гэта вам не юбілей і не якое-небудзь, даруйце, вяселле.

Тут — справа сур'ёзная. Можна сказаць, грамадскай важнасці.

Трыбуна змяняе чалавека. Плечы распраўляюцца, рукі — нават у тых, хто ніколі раней не выступаў, — звыкла кладуцца каля стоса спісаных паперак. Твар набывае нейкую адухоўленасць. За трыбунаю, і толькі там, можна напоўніцу адчуць уласную значнасць — і ўласную ж нікчэмнасць, як толькі зразумееце, што слухачы прыйшлі сюды зусім не для таго, каб вас выслухаць.

Наяўнасць трыбуны, зазначым, усётакі трохі дысцыплінуе аўдыторыю. З'яўленне каля яе чалавека, нават аддалена не падобнага да чаканага аратара, адразу змушае слухачоў сцішыцца і супакоіцца. Праўда, ненадоўга. Абсалютны рэкорд — секунды тры-чатыры. Вядома, многага за такі тэрмін не скажаш. Хіба што якісь ідэалагічна не вытрыманы «дабрыдзень».

Некаторыя выступоўцы перакананыя, што калі яны будуць прамаўляць цішэй або ўвогуле замаўчаць на якую хвіліну, то гэта нібыта верне ім увагу аўдыторыі. Святая наіўнасць! Запомніце раз і назаўжды: гэта не гуд натоўпу з'яўляецца фонам для вашай прамовы, а ваша прамова — фонавы шум для гутарак слухачоў. І калі раз-пораз на вашыя высілкі і звяртаюць увагу, то выключна дзеля таго, каб адпачыць ад суразмоўцы ці прадэманстраваць сваю абыякавасць. Адна нашая знаёмая наведвала самыя розныя навуковыя лекцыі выключна дзеля таго, каб даць адстаўку сваім кавалерам.

— Валянціна, дарагая, ці ж вы мяне слухаеце?..

— Ах, пакіньце. Я, мажа, сур'ёзны чалавек з сур'ёзнымі запытамі. Я, мажа, слухаю гэтую лекцыю пра малюскаў.

— Сур'ёзна?!

— Ах, вы ніколі мяне не разумелі.

Такое парыванне стасункаў атрымліваецца дужа эфектным, асабліва калі яшчэ зрабіць выгляд, быццам занатоўваеш за выступоўцам.

Лектары ды іншыя не па ўласнай волі прывязаныя да трыбуны аратары — людзі самыя няшчасныя. Разумеючы калі не галавою, то сэрцам усю жудаснасць свайго становішча і сваю невыносную адзіноту, яны вымушаныя працягваць выступленне. Вядома, вымушаныя не вышэйшымі сіламі і не ўласнай упартасцю, а проста працоўным кантрактам.

— Дык вось, калі звернем увагу на гэтую схему…

Схемы ды графікі часта толькі падставы для таго, каб адвярнуцца ад няўдзячных слухачоў і незаўважна змахнуць слязінку-другую.

Не здавайцеся! Прымаўка кажа: адзін у полі не воін. То і вам не выпадае змагацца з усёй аўдыторыяй адразу. Знайдзіце адзін больш-менш прыстойны твар, хаця б крыху азмрочаны пакутамі сумлення, дачакайцеся зрокавага кантакту і вывальвайце сваю прамову ўпрост у гэтыя збянтэжаныя вочы. Калі ахвяра сядзіць блізка, можна перасунуцца непасрэдна да яе і спакойна, не надрываючы голас, расказваць усё, што патрэбна. І вы выконваеце абавязак, і слухач — хай сабе і адзін, хоча ці не хоча — усприме.

Некаторыя, каб настрашыць аўдыторыю або проста ў запале, пачынаюць біць кулакамі па самой трыбуне. Мы гэтага настойліва не рэкамендуем: вядомыя выпадкі, калі гнілая трыбуна аказвалася зусім не такой надзейнай, як хацелася б. І выпадкі гэтыя заканчваліся выбухамі весялосці сярод слухачоў — і траўмамі рознай ступені цяжкасці сярод выступоўцаў. Стукаць відэльцам па чарцы тут таксама немагчыма, як мінімум з прычыны адсутнасці і першага, і другога.

Але, зноў жа, здавацца рана. Хай на баку аўдыторыі колькасная перавага, на вашым — элемент нечаканасці.

Скіньце пінжак і ідзіце да трыбуны на руках. Калі ў юнацтве наведвалі клас балета, паспрабуйце раскруціцца ў пірузце. Асобныя спецыялісты раяць выліць на асабліва непрыемных слухачоў вядро вады, але гэта лепей зберагчы на самы крайні выпадак.

Слухаць вас, вядома, усё роўна не будуць, затое заслужыце і сімпатыі, і сякіятакія апладысменты, а гэта ўжо немалая перамога. І хто пасля гэтага здолее сказаць, быццам вы не ўмееце выступаць з прамовамі?!

Нарэшце, гаварэнне як ёсць — рэч самая складаная. У выпадку чаго трыбуна зможа ўратаваць вас ад тухлых яек, пушчаных з залы. Ножкі стала цудоўна амартызуюць пінкі з боку тых, каму ваша выступленне надакучыла. Калі ж вы вымушаны стаяць перад поўным людзей памяшканнем без аніякай абароны, гэта выклікае цалкам вытлумачальнае хваляванне.

Многія, быццам за саломінку, хапаюцца за нататнікі і паперкі са сваімі запісамі. Гартаюць іх, абліваючыся потам і блеючы на казіны манер:

— Мнэ-э-э… Э…

Абы не глядзець туды, дзе пад сотню пар вачэй ацэньвае і асуджае ў рэжыме нон-стоп.

Нататнікі не асабліва выратоўваюць. Вы будзеце ўпарта шукаць патрэбную старонку з планам свайго выступлення. Тады акажацца, што акуляры для чытання падступна схаваліся ў вашай кішэні. Вы хвілін пяць, шэптам лаючыся, спрабуеце іх нацягнуць — і раптам ясна бачыце, што гэта не вашыя акуляры, а жончыны, з какетлівымі чырвонымі дужкамі. Уздзяваеце праклятыя шкельцы на нос, а тым часам патрэбная старонка згубілася, і зноў трэба гартаць ледзь не ўвесь нататнік, так што выпадаюць і талончыкі да доктара, і мінулагодняя тэатральная праграмка, пакінутая ў якасці сувеніра… Усё гэта ляціць вам пад ногі, пакуль вы тупаеце на месцы ад нецярплівасці. Вачэй вы не падымаеце, але выразна адчуваеце на сабе непрыязныя позіркі, якія так і апякаюць, і чуеце гоман, што падымаецца ад задніх радоў.

— Мнэ… — з кепска прыхаваным адчаем цягнеце вы, падносячы нататнік бліжэй да вачэй, не столькі каб чытаць, а проста каб прыкрыць твар, які паступова наліваецца чырванню. Праз жончыны акуляры ўласны почырк выглядае зусім незнаёмым і ледзве чытэльным, радкі скачуць — магчыма, таму, што ў вас дробненька дрыжаць рукі.

Прачытаеце вы хоць штосьці або не — не мае значэння. Сама прамова больш не мае значэння, яна не задалася ад самага пачатку, і час згублены, і каштоўныя нервовыя клеткі згарэлі і ніколі не адновяцца. Нават калі пачнеце-такі, адкашляўшыся ў кулак, выступаць, усе будуць чакаць толькі аднаго: калі закончыце і сыдзеце. І, што асабліва непрыемна, вы будзеце скурою адчуваць гэтае чаканне, так што прамова скамячыцца яшчэ болей. Брыдка нават падумаць, згадзіцеся.

Таму рабіце так: кіньце нататнік і акуляры для чытання, свае і жончыны. Выходзьце, горда ўскінуўшы падбароддзе, як некалі французскія арыстакраты ішлі ў апошні свой шлях да гільяціны. *Sacre dieu*[1]! Хай адзін ваш выгляд, адзіны выраз вашага высакароднага твару пакажа нікчэмным слухачам іхняе месца (нават у тых выпадках, калі месцы ў аўдыторыі пранумараваныя і на іх прададзеныя білеты).

Ідзіце, прамы і свабодны, горда гледзячы ўверх, кудысь па-над слухацкімі галовамі. Апошняе, вядома, варта выконваць з доляй перасцярогі, каб не зачапіцца за што-небудзь нагою і не сапсаваць усё ўражанне.

Станьце, ленаватым выкшталцоным жэстам развеўшы рукі. Не вітайцеся — лішняе. Вы носьбіт мудрасці, які з уласнай ласкі вырашыў гэтаю мудрасцю падзяліцца з істотамі ніжэйшага рангу. Каб нагадаць апошнім пра іхнюю нікчэмнасць, варта пачаць так:

— Вядома, у настолькі пустыя галовы, як вашыя, ніколі не прыходзіла такая думка…

Або:

— Нават дзіўна, што вы, ёлупні, усе не ў курсе пра…

Ці:

— Кожны ідыёт, апроч, можа быць, толькі вас, ужо знаёмы з…

Усё гэта вельмі добра і запамінальна, усё гэта вельмі ярка і крэатыўна, усё гэта — сапраўдная вяршыня рытарычнага майстэрства.

Аднак, выступаючы ў такой манеры, трэба ўважліва сачыць, як рэагуе аўдыторыя. І калі пабачыце, што сям-там асобныя індывіды падымаюцца з месцаў, разміная кулакі, абрывайце гаворку. І выходзьце — гэтаксама велічна, як і ўваходзілі, але з большай паспешлівасцю.

Няма прарока ў Айчыне сваёй. *Parbleu*[2]!

1. *Чорт пабяры! (фр.).*
2. *Канечне! (фр.).*

## Атэна ФАРУХСАД



**У гэтыя дні для аматараў прыгожага пісьменства галоўнай навіной са Швецыі з'яўляецца абвяшчэнне імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Прапануем нашым чытачам знаёмства з прадстаўніцай сучаснай шведскай літаратуры: Атэна Фарухсад — паэтэса, перакладчык, літаратурны крытык. Яе кніга «Белая нізка», якая выйшла ў 2013 годзе, стала адным з самых значных паэтычных дэбютаў Швецыі ў апошнія гады і выклікала цікавасць у іншых краінах. Напрыклад, сёлета кніга выдадзена ўкраінскім выдавецтвам «Крок» у перакладах Дзмітрыя Плакса. Прапануем урывак твора ў перакладзе на беларускую.**

# З «Белай нізкі»

*Мая сям'я прыехала сюды пад сцягам марксізму.*

*Маці адразу ж запоўніла дом лямцавымі гномікамі*
*Пачала ўзважваць плюсы і мінусы пластыкавых*
*калядных ялінак*
*нібы ёй гэта абыходзіла*
*Цэлымі днямі разбірала доўгія ды кароткія галосныя*
*нібыта гукі, што выходзяць з яе вуснаў*
*вымыюць аліўкавы алей са скуры*
*Маці залівала сінтаксіс адбельнікам*
*За працяжнікам склады рабіліся бялейшыя*
*чым зіма поўначы*
*Маці будавала якасць жыцця з колькасці ежы*
*У падвале тыпавога дамка грувасціла яна бляшанкі*
*як перад вайной*
*Вечарамі шукала рэцэпты ды абірала бульбу*
*нібы гэта яе гісторыя зашыфраваная*
*у страве «спакуса Янсана»*
*Толькі падумаць — я смактала тыя грудзі*
*Толькі падумаць — сваё барбарства*
*яна пхала мне ў рот*

*Маці сказала: ты, здаецца, ніколі не задумвалася*
*што з твайго імя пачалася цывілізацыя*
*Маці сказала: Цемра ў маім улонні — адзіная,*
*якой ты не баішся*

*Маці сказала: Ты летуценніца, ты нарадзілася,*
*каб з простых позіркаў рабіць касыя*
*Маці сказала: Каб ты ўмела бачыць,*
*што акалічнасці бываюць змякчальнымі*
*дык ты б аблягчыла маю адказнасць*
*Маці сказала: Шануй намаганні людзей,*
*што стараюцца*
*сфармуляваць праўду, якую можна вытрымаць*
*Маці сказала: ты не была жывучая ад самага пачатку*
*Маці сказала: Адна жанчына сваёй маці*
*пальцамі вочы выціснула*
*каб тая не бачыла даччынай распусты*

*Бацька сказаў: Ты маеш схільнасць да метафізікі*
*Але што такое прадукцыйныя сілы, ты ў мяне ведала*
*калі ў цябе яшчэ малочныя зубы не павыпадалі*
*Маці сказала: Твой бацька жыў дзеля Суднага дня*
*твая маці таксама, але яе прымусілі сцішыць амбіцыі*

*Маці сказала: У сне твайго бацькі вас*
*разам караюць смерцю*
*У мроях твайго бацькі вы звёны радаводу*
*рэвалюцыянераў*
*Бацька сказаў: Твая маці карміла цябе з імпартных*
*срэбных лыжак*
*Твая маці была ў кожнай кропцы твайго твару*
*ліхаманкава выпроствала кудзеры*

*Маці сказала: Усё жыццё зайздросціла я траўмам*
*твайго бацькі*
*пакуль не зразумела, што мае ўласныя нашмат*
*значнейшыя*
*Маці сказала: Я ўбіла процьму грошай, каб ты*
*вучылася граць на фартэпіяна*
*Але на маім пахаванні ты граць не станеш*

*Маці ўзяла мару з бацькавых рук і сказала:*
*Ад цукру ты саладзейшы не станеш*
*Прайдзіся кружок вакол дому, перш чым укалоць інсулін*
*Бацька сказаў: жыццё пражыта, жыццё пражыта*
*што мне было наканавана, я зрабіў спаўна*
*Нічога не засталося ад салодкага хлебу маладосці*

*Маці сказала майму брату: сцеражыся незнаёмцаў*
*Памятай, табе не будзе куды вярнуцца*
*калі яны раптам стануць ворагамі*
*Брат сказаў: Я сніў нешта вельмі дзіўнае*
*Як світанак згас у маіх вачах пакуль сон яшчэ*
*не развеяўся*
*Чалавецтва цукру і разні*
*Развітваючыся са святлом, я спазнаў усё*

*Маці сказала: З дзялення клетак*
*з генетычнага матэрыялу*
*з галавы твайго бацькі*
*Але не з мяне*
*Бацька сказаў: З барацьбы цывілізацый*
*з базавага антаганізму*
*з маёй стомленай галавы*
*Але не з яе*

*Бацька сказаў: На чэмпіянаце па мучаніцтве,*
*твая маці зрабіла б усё, каб прайграць*
*Маці сказала: Сэрца — не калена: не сагнеш,*
*як захочаш*
*Бацька сказаў: Нават той певень, што не пеў,*
*можа ўбачыць світанак*
*Маці сказала: Але калі курыца не нясецца,*
*то сама пойдзе на стол*

*Бацька сказаў: Твой брат галіўся, калі ў яго*
*яшчэ барада не расла*
*Твой брат бачыў у люстэрку твар тэрарыста*
*і ў падарунак на каляды прасіў шчыпцы,*
*выпрамляць валасы*
*Брат сказаў: Калі прыйдзе пара, хочацца*
*памерці ў краіне*
*дзе людзі могуць вымавіць, як мяне завуць*

*Брат сказаў: Не думай, што ты здольная*
*нешта мне прапанаваць*

*Бацька сказаў: Пра чыйго бацьку ты пішаш*
*Маці сказала: Пра чыю маці ты пішаш*
*Брат сказаў: Што за брат маецца на ўвазе*
*Бабуля сказала: Калі зараз не пакрышыш салаты,*
*дык не будзе і абеду*

*Бацька сказаў: Тым, хто мае, дасца*
*ад тых, хто не мае, возьмецца яшчэ больш*
*Маці сказала: Налі яшчэ малака, пакуль не скісла*
*Маці сказала: Праўда было б дзіўна*
*адчуць хоць адзіную ноч*
*маю мову ў тваім роце*

*Бацька сказаў: Лыжку катам*
*лыжку вызваліцелям*
*лыжку галадаючым масам*
*І лыжку мне*

*Маці падала шклянку сваёй маці, і сказала:*
*Цяпер мы квіты*
*Вось, вяртаю табе малако*
*Маці сказала: Твая маці — ад сонца на світанку*
*Яна атрымала імя кветкі, бо нарадзілася ўвесну*
*Твая маці дала табе імя ваяўніцы,*
*каб падрыхтаваць цябе да зімы*

*Бабуля сказала: У Маргачы вясною ўздоўж*
*ручаёў расла мята*
*Ці ў тваім вершы ёсць пра гэта*
*Бабуля сказала: Хадзі сюды, смаркачка нахабная*
*Здыму мерку, ды звяжу табе швэдар*

*Маці сказала: Калі мы яшчэ сустрэнемся,*
*зробім выгляд, што не ведалі*
*адна адну калі ты была галодная, а ў мяне было малако*

*Брат сказаў: Чорнае малако ўсходу,*
*мы п'ём цябе начамі*

*Брат сказаў: Мінулае – гэта гвалт, якому*
*не дадзена спраўдзіцца*

**Пераклаў са шведскай**
**Дзмітрый ПЛАКС**

## Мікалай НАМЕСНІКАЎ



**Беларускі паэт з Віцебска, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Наменснікаў піша па-руску. З-пад яго пяра выйшлі зборнікі лірыкі «Забытыя нябёсы», «Лістапад спавядальны», «Час яблыкаў» ды іншыя. Прадстаўляем чытачам «ЛіМа» вершы Мікалая Наменснікава, пераствораныя паэтам і перакладчыкам Міколам Шабовічам.**

***

*Прамінулі раз'езд і крыніцу,*
*ды масток не змаглі абмінуць.*
*Я за спінай ляжу ў вазніцы*
*на калёсах, што ледзьве паўзуць.*
*Ні агнёў, ні сустрэчнага люду.*
*Жменька хат і зарослы папар.*
*А вазніца застыў, быццам Буда,*
*азіраючы стылы абшар.*

*Нелюдзімы, зняверана-сумны.*
*Што яму — ці махляр, ці паэт?*
*Ён бясконцыя думае думы*
*пра людзей і пра ўвесь белы свет.*

*Нібы служыць развітную трэбу.*
*Нібы з лёсам самім заадно…*
*І хутчэй мо абрушыцца неба,*
*чым ён слова прамовіць адно.*

***

*На небе хмары неразлучныя.*
*Іх вецер гоніць. Гром грыміць.*
*Але пра гэта пасля Цютчава,*
*бадай, не варта гаварыць.*

*Мне навальніца сніцца майская —*
*з адценнем готыкі той сон.*
*Над галавою ўздымаецца*
*з бліскучым шпілем парасон.*

*Вятры такія анамальныя.*
*Хінуцца-гнуцца ліхтары.*
*Маланкі свецяць асляпляльныя*
*даўно прыціхлыя двары.*

*Пабач: над мокраю сталешніцай*
*уся з зіхоткага святла*
*стаіць чаромха сумнай грэшніцай,*
*нібы да споведзі прыйшла.*

*І спеў птушыны, адчаканены,*
*лясоў і траў вянчае раць.*
*Вясёлкай першай зачаканыя,*
*на вербе свечачкі гараць…*

# Каін

*Прайду праз дождж,*
*ступлю на гліну, ступлю на гравій*
*насустрач ліпам, насустрач клёнам,*
*насустрач вязам.*
*І не спытаюць:*
*«Скажы мне, Каін, дзе брат твой*
*Авель?»*
*Калі спытаюць — прайду я ціха*
*і без адказу.*

*А ў парку — вечар. А ў парку — вецер.*
*А ў парку — лужы.*
*А ў парку восень дажджом дыміцца*
*ў халодных кронах.*
*А ў парку можна хоць да світання*
*хадзіць і слухаць,*
*Як на сцяжынках аб чымсьці*
*гучна крычаць вароны.*

*Памкнуцца цені з высокай стромы*
*спалошнай чайкай.*
*Туман накрые свае абшары,*
*як мірны атам.*
*На бераг сяду, ўздыхну нягучна,*
*напоўню чаркі*
*сабе — і небу, сабе — і ветру,*
*сабе — і брату.*

*Пацягне горкім суботнім дымам*
*з глухіх ускраін.*
*Як са штандара, сарвецца зорка,*
*з нябёс сарвецца…*
*А дзе ж той Авель? — Адкажа неба:*
*«Ён там, дзе Каін.*
*Шукайце — лепей. Гучней завіце.*
*І адзавецца!»*

***

*За бярозавым гаем —*
*як дым ад кадзіла, туман.*
*За туманам —*
*рака,*
*дзе гайдаюцца сонныя лодкі.*
*Дакрычацца да іх*
*не хапае ні волі, ні глоткі,*
*як да тых, хто калісьці*
*пайшоў ад гадоў ці ад ран…*

*Шмат разоў ты прасіў*
*прабачэння за нечы падман*
*у няпросты наш час,*
*у бяздушлівы час безгалосся,*
*праплываў, нібы лодка,*
*са жніўня ў ціхутку восень,*
*быццам дым ад кадзіла,*
*рукамі разводзіў туман…*

**Пераклаў з рускай**
**Мікола ШАБОВІЧ**

# Павітацца за руку

**У кожнага часу свой голас. І розныя галасы ў розных літаратурных пакаленняў. Розныя не значыць лепшыя ці горшыя, проста яны іншыя, угрунтаваныя ў свой час як у цалкам адрозную сістэму каардынат. І важна не вульгарызаваць, параўноўваючы, важна азірацца, чуць адно аднаго, падтрымліваць дыялог.**

Філалагічнае пакаленне сталася ў беларускай літаратуры заўважаным і пачутым. Дзіўна было б чакаць іншага: настолькі гучна, ярка, нешарагова гучалі іх галасы. І сярод іх голас сёлетняга юбіляра Міколы Гіля. Шмат гадоў ён аддаў працы ў газеце «Літаратура і мастацтва». Займаючы пасаду галоўнага рэдактара, умацоўваў імідж выдання як прынцыповага, вострага, прафесійнага. Яго ведаюць як перакладчыка, чыйму таленту, валоданню словам можна давяраць безагаворачна. Цяпер на слыху яго пераклады беларускай нобеліянткі Святланы Алексіевіч. Наогул імя Міколы Гіля часта сустракаецца поруч з імёнамі калег, бо як чалавек, падаецца, цалкам абдзелены творчай зайздрасцю, самалюбствам, ён выступае захавальнікам памяці — з радасцю і нязменным тактам згадвае сваіх паплечнікаў, сяброў, і гэтыя ўспаміны — ужо гісторыя літаратуры.

За плячыма Міколы Гіля вельмі шмат руціннай працы, не надта заўважнай старонняму воку і таму непрыдатнай, каб займець гучную славу. Але ў кожнай сваёй іпастасі ён выяўляе майстравітасць, адказнасць, руплівасць. Гэтымі ж рысамі пазначаная і яго празаічная творчасць.

Друкавацца Мікола Гіль пачаў у 1952 годзе, а першая яго кніга «Ранішнія сны» пабачыла свет у 1973. І гэтая позняя для дэбюту кніга ўражвае цяпер сваёй выспеленасцю, сталасцю і нетутэйшым для нашага часу пісьмом. Тут і надалей аўтар дае свайму чытачу добрую, вывераную, старой класічнай загартоўкі прозу. Ужо сышла тая натура, пра якую піша Мікола Гіль: маладзейшы чытач і не пазнае той вёскі — жывой, многагалосай, і ці настолькі блізкай будзе для яго праблема разлому паміж ёй і горадам. Але тым больш каштоўныя гэтыя праўдзівыя сведчанні, памятка з нядаўняга мінулага — нібы магчымасць пагартаць сямейны альбом, пачуць гісторыю і свайго роду. Але той суплёт праблем, якія прынята называць маральна-этычнымі, не змяніўся. Людзі не сталі адчуваць па-іншаму. А акурат пачуцці герояў Гіля пададзеныя сапраўды пераканаўча. Тут вельмі далікатны псіхалагізм, вельмі тонкая праца з дэталлю, характарам, і ўсё гэта ўмеючы, лёгка (хаця за гэтай уяўнай для чытача лёгкасцю — заўжды не абы-якая праца), без празмернасці, без любавання сабою, сваім майстэрствам. Гэта вялікае ўменне — беручы за аснову даволі драматычныя калізіі, не перасцінуць, не спекуляваць на пачуццях. І ў Міколы Гіля атрымліваецца — рука не дрыжыць, почырк роўны, акцэнты дакладныя і трапныя.



*Мікола Гіль.*

Зацяганыя словы — псіхалагізм і гуманізм, але, здаецца, у гаворцы пра прозу Гіля без іх ніяк не абысціся, як ніяк не пазбавіцца асацыяцый з Кузьмой Чорным. Чытаеш Гіля — і прыгадваеш словы Чорнага пра тое, што ў беларускай вёсцы знойдзеш якія заўгодна характары і якія заўгодна жарсці, вартыя вялікага рамана. Проза Міколы Гіля ясна паказвае: няма ніякага маленькага чалавека. Усе роўнавялікія. Героямі яго нарысаў на роўных правах становяцца касманаўт і токар, знаны пісьменнік і кіроўца трамвая. Мікола Гіль піша з вялікай увагай да асобнага чалавека і з вялікай любоўю. Ён не суддзя сваім героям, відаць, таму што верыць, ведае: усе мы жывём «на адным калідоры» (так завецца адно з яго апавяданняў), дык варта неяк захоўваць добрае суседства. Варта бачыць, чуць тых, хто ходзіць з табой аднымі калідорамі, аднымі сцежкамі. Мікола Гіль бачыць і спагадае.

Герой апавядання «Недзе кукавала зязюля» сумуе, што «вось так непрыкметна састарэла маці, што тую кадрылю рэдка калі пачуеш цяпер на вясковай вечарынцы, што маладыя музыкі не ведаюць нават яе мелодыі». Прыкладна гэтаксама мы забываем той голас, якім пару дзесяцігоддзяў таму гаварыла беларуская проза. Але ёсць фотаздымкі, на якіх маці па-ранейшаму маладая. І ёсць кнігі, дзе голас спакойны, а проза ясная і чыстая. І, падаецца, варта іх перачытваць. Бо перачытваць — гэта нібыта, ідучы адным калідорам, не бегма кіўнуць, а спыніцца і павітацца за руку.

**Алена КАРП**

*З пошты «ЛіМа»*

# Сумніўна, калі ананімна

У рубрыцы газеты «ЛіМ» ёсць штомесячны раздзел, дзе публікуюцца кароткія агляды часопісаў «Полымя», «Нёман» і «Маладосць». Пачынаючы з № 20 за 20 мая 2016 г. звярнула ўвагу вось на што: агляд нашых літаратурных таўстуноў выйшаў пад загалоўкам «Парад выдатнікаў» і чамусьці без прозвішчаў аўтараў крытычных аглядаў (як гэта звычайна было). У аглядах без прозвішчаў з'явіліся тры шкалы ацэнак: «Выдатна», «Сумніўна» і «На суд чытача». Адзнака «Выдатна» — гэта найвышэйшая пахвала, амаль ідэальная за ідэальны, з пункту гледжання мастацкасці і эстэтычных катэгорый, твор, што малаверагодна, а ў літаратуры яшчэ і вельмі рэдкая рэч, таму, на мой погляд, і вельмі адказная. Адзнака «На суд чытача» не выклікае ніякіх пярэчанняў, а вось адзнака «Сумніўна» выклікае пытанні. У самім слове ўжо крыецца дваістасць, схаваны нейкі падтэкст.

Напачатку нават узрадавалася гэтай рубрыцы. Нарэшце, дачакаліся: і ў «ЛіМе» прафесіяналы таксама засумняваліся ў якасці некаторых сучасных твораў, ды і чытачам надакучылі ладна дыетычныя стравы, якія падаюцца на старонках газеты пад выглядам крытыкі. Пакуль не прачытала ў № 32 за 12 жніўня 2016 г. пад загалоўкам «Празаікі перамагаюць» наступнае: ацэнка «Сумніўна» была выстаўлена дасведчанаму крытыку Георгію Кісялёву за яго рэцэнзію «Не ищи меня там», зборнік Г. Барташа «Ботиночки» (Мінск, «Галіяфы», 2015), апублікаваную ў часопісе «Нёман».

Крытычныя артыкулы, нататкі, агляды, водгукі Георгія Іванавіча Кісялёва адрозніваюцца спакойнай, узважанай манерай, падрабязным аналізам, удумлівасцю і добразычлівасцю. Старэйшы па ўзросце і дасведчаны ў літаратуры, жыцці, ён шчыра дзеліцца з чытацкай аўдыторыяй сваімі ўражаннямі, як у выпадку са зборнікам вершаў Г. Барташа. Многія б паэты, годна не ацэненыя і не заўважаныя, былі б удзячныя крытыку за такую разгорнутую рэцэнзію.

Стараюся чытаць усе крытычныя працы Георгія Кісялёва, прачытала і яго апошнюю рэцэнзію. Мне нават здалося, што не каштаваў той зборнік гэткай пільнай увагі, ёсць дастаткова іншых аўтараў і кніг, каб завастрыць цікавасць крытыка на праблемах сучаснага вершаскладання (усе ў нас вакол адны паэты, ніхто не назавецца вершаскладальнікам, тым больш версіфікатарам, а сапраўднай паэзіі і не адшукаеш; гэта як са здабычай золата: шмат тон грунту трэба перапрацаваць, каб намыць часцінкі найчысцейшага золата). Нездарма крытык называе сябе «спрактыкаваным» чытачом паэзіі, яму ёсць з кім і з чым параўноўваць, і гэта параўнанне не на карысць заяўленага ўкладальнікам зборніка «Ботиночки». Прыведзеныя тэксты пра гэта сведчаць. Нездарма словы крытыка гучаць так горка і расчаравана.

А што ж маем у ацэнцы без прозвішча, лічы ананімнай, якая выклікае пытанні? Прывяду яе ў поўным аб'ёме.

«Сумніўныя пачуцці выклікае рэцэнзія Георгія Кісялёва на паэтычны зборнік Георгія Барташа "Ботиночки", якая друкуецца ў шматабяцальнай рубрыцы "Искусство суждения". Напрыклад, "…почему же всё-таки автор назвал свой сборник "Ботиночки"? Одноименное стихотворение не произвело на меня впечатления, потому что написано верлибром". Густ — недатыкальны скарб асобы, з гэтым ніхто спрачацца не будзе. Аднак калі адну з найбольш пашыраных у сусветнай літаратуры паэтычных форм называюць бясформенным кавалкам прозы, калі ёй адмаўляюць у прыналежнасці да паэзіі праз адсутнасць рыфмы, толькі і застаецца паспачуваць Максіму Танку, Максіму Багдановічу, Веньяміну Блажэннаму і іншым геніям верлібра. Колькі гадоў аддалі яны служэнню памылковым ідэям!..»

Першае. Крытык Г. Кісялёў аднёс да кавалка прозы, разбіты на розны даўжыні радкі, не верлібры геніяў сусветнай літаратуры, якім паспяшаліся паспачуваць у рубрыцы «Сумніўна», але толькі верлібры аднаго Г. Барташа, а гэта, самі разумееце, зусім розныя рэчы. Не варта так груба вырываць цытаты з кантэксту.

Другое, а можа, і самае галоўнае. Упэўненая, крытык Г. Кісялёў доўга і цярпліва працаваў над сваім артыкулам, чытаў і перачытваў зборнік, разважаў над творчасцю Г. Барташа, мучыўся, не раз узважваў свае заключэнні, рабіў нататкі, параўнанні, звяртаўся да класікаў, таго ж Уладзіслава Хадасевіча.

Трэцяе. Ён потым гэтак жа доўга і пакутліва пісаў свой аб'ёмны артыкул. Каб не ведаць такога цяжкага хлеба аўтару «лімаўскай» рубрыкі «Сумніўна», што з такой нязносна лёгкасцю вынес сваю вельмі асобасную выснову.

Прызнаюся, даўно сябрую з крытыкам Георгіем Кісялёвым, чалавекам міралюбным, прыстойным, крайне сумленным, начытаным, з адмысловым густам. У яго ёсць чаму павучыцца, асабліва прафесіяналізму, за плячыма не толькі маскоўскі літаратурны інстытут, але і вялікая літаратурная школа крытыка, тонкага паэта і перакладчыка. Ён не першы год уважліва адсочвае падзеі, імёны, кнігі ў сучаснай беларускай літпрасторы.

**Ірына ШАТЫРОНАК**

# УРОКІ КОЛАСАВАЙ ШКОЛЫ

**Лейтматывам свята «Каласавіны» ў Багданаўскай СШ, прысвечанага 110-годдзю пачатку творчасці Якуба Коласа, сталі радкі аднаго з твораў народнага песняра: «Людзі, услаўляйце Божую Праўду! Асвяці, Божа, люд неўспамялы…»**

Літаратурны дэбют паэта выпаў на 1 верасня 1906-га. Спачатку ж Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, педагог па адукацыі, настаўнічаў на Палессі. Госці з установ адукацыі раёна акцэнтавалі ўвагу на палескіх старонках жыцця і дзейнасці класіка. Вучаніца 9 «А» класа СШ № 2 г. Лунінца Марыя Зубік (кіраўнік Святлана Гардзіевіч) распавяла пра наведванне Лунінца будучым пісьменнікам у 1903 — 1904 навучальным годзе. А 11-класніца лунінецкай гімназіі Вераніка Макаловіч (кіраўнік Ірына Грушэўская) прадставіла прэзентацыю «Уладыка і Пясняр» пра дзейнасць архіепіскапа Пінскага і Лунінецкага Сцяфана па ўшанаванні памяці Якуба Коласа.

Па блаславенні архіерэя «Каласавіны» працягнуліся каля храма мучаніц Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі. Удзельнікі літаратурнай сустрэчы спрычыніліся і да хроснага ходу. Унучка песняра Вера Міцкевіч прадставіла сваю кнігу, прысвечаную Якубу Коласу, што сёлета выйшла ў серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Першыя экзэмпляры выдання Вера Данілаўна ўручыла ўладыку Сцяфану і настаяцелю храма протаіерэю Мікалаю Вабішэвічу.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

# ЛЕПШЫЯ ВЫСТАЎКІ ЛЮТАГА: КУДЫ ВАРТА СХАДЗІЦЬ?

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ

*(пр. Незалежнасці, 47)*

1 **Што:** Шведска-беларускі выставачны праект «Сам-насам з кліматам» — цікавы сінтэз класічнага мастацтва карыкатуры з рознымі медыямагчымасцямі: фатаграфіяй, інсталяцыяй, відэакалажнай экспазіцыяй. Выстаўка складаецца з дзвюх частак: у першую ўваходзяць творы мясцовых мастакоў і карытукарыстаў, у другую — творцаў са Швецыі.



**Дзеля чаго?** Экспазіцыя ўзнімае пытанні зменлівасці клімату ў свеце. Паколькі змены клімату — адна з прычын частых катастроф і няшчасцяў, тэма актуальная і патрабуе абмеркавання. Аўтары, што ўдзельнічаюць у праекце, ставяць за мэту паразважаць над прынцыпамі ўстойлівага развіцця грамадства і распаўсюджваннем ведаў пра экалагічныя праблемы. Мастакі спадзяюцца, што агульныя развагі над праблемамі дазволяць шукаць шляхі, як прадухіліць наступствы прыродных катаклізмаў.

**Чаму ісці?** Праект «Сам-насам з кліматам» стартаваў яшчэ ў 2010 годзе і за 5 год ахапіў шэраг краін, якія зацікавіліся пытаннямі экалогіі. За гэтыя гады да праекта далучыліся нашы айчынныя мастакі Раман Сустаў, Кацярына Марціновіч, Алег Карповіч, Вольга Сазыкіна, Сяргей Волкаў і Антаніна Слабодчыкава, якія маюць асабістае меркаванне на дадзеную тэму.

## ГАЛЕРЭЯ МАСТАЦТВАЎ «ПРАДМЕСЦЕ»

2 **Што:** Выставачны праект «*Impression*» беларускага мастака Леаніда Гоманава, які працуе ў станковым жывапісе, стаў другім у восеньскай мастацкай серыі выставак «*Velvet season*» галерэі «Прадмесце». Экспазіцыя складаецца з лірычных пейзажаў аўтара, якія выклікаюць захапленне як айчынных, так і замежных мастацтвазнаўцаў.

**Дзеля чаго?** Леанід Гоманаў захапляецца з'явамі прыроды розных краін свету. Ён тонка перадае колер, звяртае ўвагу на самыя нязначныя дэталі, якія становяцца асноўнымі складнікамі мастацкай кампазіцыі. Паколькі мастак дастаткова часта выязджае на пленэры, скарбонку яго пейзажных работ не назавеш аднастайнай, хутчэй, дзівішся разнастайнасці прыроды, яе паэтычнасці.

**Чаму ісці?** Творы аўтара дазваляюць пазбавіцца будзённых думак, якія парушаюць унутраную духоўную гармонію. Работы абуджаюць душэўную пяшчоту і ўвагу да прыроды, якую ў выніку хочацца адчуць не толькі на палатне.



*«Дакрананне», 2014 г.*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

3 **Што:** «Некалькі слоў пра пастэль» — традыцыйная выстаўка члена Беларускага саюза мастакоў Ларысы Жуpавовіч. На працягу апошніх дзесяці год мастачка заўсёды выкарыстоўвае лёгкую, паветраную пастэль. Дзякуючы гэтаму, лічыць творца, і атрымліваюцца такія пранікнёна-душэўныя творы.



**Дзеля чаго?** У жывапісе Ларыса Жуpавовіч прытрымліваецца вясковага жанру. Апявае матывы беларускага традыцыйнага побыту, звяртаецца да народных свят і абрадаў. Згодна з яе меркаваннем, гэты скарб мы абавязаны захаваць. Колькі людзей любілі, шанавалі вёску і аберагалі бясцэнны кавалак зямлі! У творах мастачкі адлюстравана любоў і прыхільнасць да спадчыны дарагой радзімы. У гэтым яна знаходзіць натхненне.

**Чаму ісці?** Прасочваецца погляд маладой жанчыны не на актыўнае жыццё мегаполіса і нават не на модныя тэндэнцыі, а на свет працы і побыту, на яднанне чалавека, прыроды і зямлі. Ларыса Жуpавовіч — асоба рамантычная, ёй прыемна падзяліцца сваім захапленнем з гледачамі.

## ГАЛЕРЭЯ СУЧАСНАГА І КЛАСІЧНАГА МАСТАЦТВА «DK»



4 **Што:** Выстаўка ранніх твораў мастака Адама Глобуса стала сюрпрызам не толькі для наведвальнікаў галерэі, але і для аўтара. Яе падрыхтавалі жонка і дачка мастака да яго дня нараджэння. Па словах Алены Адамчык (жонка Адама Глобуса), зрабіць падарунак мастаку — справа складаная, а выстаўка — знаходка і арыгінальная, і сімвалічная. Для твораў майстра ў галерэі «*DK*» адведзены асобны пакой.

**Дзеля чаго?** На выстаўцы дэманструюцца творы, у якіх слова — творчы кампанент. У кожнай рабоце яно прасочваецца асобым шрыфтам, мастацкім кодам. Так Адам Глобус эксперыментуе, аб'ядноўваючы славесную і творчую часткі ў агульны твор. Здаецца, што работы не адно цэласнае палатно, а вялікая колькасць маленькіх лапікаў, якія ўдала размеркаваны па карціне. Экспазіцыя мільгае безліччу яркіх, рэзкіх колераў. У іх прасочваецца пэўная сэнсавая вастрыня: над работай трэба разважаць.

**Чаму ісці?** На выстаўку зайсці цікава ўжо таму, што гэта карціны з сямейнага архіва Адамчыкаў. Раней іх не выстаўлялі. І паколькі работы створаныя дастаткова даўно, ёсць магчымасць прааналізаваць развіццё аўтара.

## ПЛОШЧА СВАБОДЫ

5 **Што:** Гэты тыдзень у Беларусі аб'яўлены тыднем мацярынства, таму на плошчы Свабоды дэманструецца выстаўка фатаграфіі «Я побач» (прымеркаваная і да Месяца фатаграфіі ў Мінску). Праект арганізаваны ў сталіцы ў другі раз па ініцыятыве Наталлі Міранчук. Летась акцэнт быў скіраваны на маці і немаўлят, сёлета канцэпцыя змянілася: у падарунак жанчынам прадстаўленыя фотаздымкі на тэму «Шчаслівы тата».



**Дзеля чаго?** Жанчыны марацЬ пра моцную сям'ю, дзе разумеюць адзін аднаго. Дзеці — самая вялікая радасць сям'і. Калі мужчына любіць сваё дзіця, жанчына квітнее і ўсім дорыць любоў. Фотаздымкі адлюстроўваюць гармонію, якая здольная абудзіць забытыя пачуцці ці нагадаць важныя моманты жыцця.

**Чаму ісці?** Арт-праект «Я побач» выконвае сацыяльную функцыю і пазітыўна ўздзейнічае на людзей. Праз плошчу Свабоды штодня праходзіць многа людзей, і ўсе яны аўтаматычна ператвараюцца ў гледачоў: візуальныя вобразы могуць матэрыялізавацца ў сябе дома.

Падрыхтавала Вікторыя АСКЕРА

# Пра крылы, птушак і навакольнае асяроддзе

**Некалькі асоб у адным чалавеку… Такое магчыма, калі ён — артыст. Але калі б Віктар Шалкевіч не быў артыстам, то некалькі сваіх талентаў здолеў бы рэалізаваць усё роўна: яму ёсць што сказаць.**

**— Якім бы відам творчасці вы ні займаліся, але тэатр зусім не пакідалі…**

— Тэатр — гэта рэч для душы, перадусім. Па-другое: калі я паступаў у тэатральна-мастацкі інстытут, конкурс быў 20 чалавек на месца (3 патокі), я вытрымаў сур'ёзны адбор. Па-трэцяе: маім настаўнікам быў вучань Мiровiча, Аляксандр Іванавіч Бутакоў, заслужаны дзеяч мастацтваў. А яшчэ Ілья Львовіч Курган, Барыс Пятровіч Утораў… Легенды. Шкада кідаць такую прафесію. Акрамя таго, калі я сышоў на палову стаўкі, памянялася стаўленне да тэатра: на працу ходзіш як на свята.

**— Гэта ў Гродзенскім абласным тэатры лялек. Але ж вы пачыналі як акцёр драматычнага тэатра.**

— У драматычным тэатры я працаваў бы, можа, далей, каб не 95-ты год, перабудова. У тэатр прыйшла брыгада варагаў на чале з Ігарам Пятроўскім, які нібыта быў заслужаным дзеячам мастацтваў Татарскай АССР. Абласное начальства думала, што яны ўздымуць Гродзенскі тэатр на недасягальную вышыню. Але пачаліся розныя не вельмі прыемныя рэчы, спрэчкі…Такія дробныя тэалагічныя тонкасці, наступствамі якіх я, дзякуючы прыхільнасці дырэктара вучылішча мастацтваў спадара Сяргейчыка, сышоў з тэатра і працаваў педагогам. А потым Мікалай Андрэеў, з якім мы вучыліся на паралельных курсах, прыехаў да нас пасля заканчэння рэжысёрскага аддзялення ў Піцеры. Пачалася выдатная эпоха: я перайшоў у лялечны тэатр. Што мы там толькі не рабілі: ставілі Караткевіча, Мрожака (гэта была выдатная рэжысёрская праца Мікалая Пінігіна). Прыязджалі вельмі цікавыя рэжысёры з Польшчы. А «Тутэйшыя» паводле Купалы, якія ў нас і цяпер ідуць, — не спектакль, а стрэл. А потым гэтыя эпоха пацiху скончылася.

**— Што значыць «эпоха скончылася»?**

— Мне здаецца, што за зімой павінна прыходзіць вясна, а за летам — восень. Так і адбылося. Нейкая цыклічнасць заўсёды была, ёсць і будзе. Калісьці бабка Петра Казюк з нашага мястэчка паўтарала: «Лес няроўны, і людзі, дзеткі, няроўныя». Тут усё праўда. Павінна нешта змяняцца: альбо ў горшы бок, альбо ў лепшы.

**— Ці вылучаеце пэўныя цыклы ў сваім жыцці?**

— Напэўна, чалавек набіраецца досведу цягам многіх гадоў. Калі ўмее аналізаваць, запамінаць нешта, у яго ўсё адкладваецца ў галаве… Была эпоха нейкага рамантызму, далей эпоха гераізму, а цяпер — нармальнага крытычнага рэалізму. Калі глядзіш на ўсё і думаеш: а што далей?..

У такі час у мяне з'явілася іншая творчасць. Напрыклад, выйшла кніжка, якая называецца «Рэквіем па непатрэбных рэчах», спярша тут, у нас, а потым у польскім перакладзе ў Беластоку, а ў наступным годзе таксама па-польску выйдзе «Мястэчка G і ваколіцы». Зараз я заняты тым, што сярэдзіна жыцця адбылася, завяршаю пэўны этап. Пішу раман, своеасаблівыя «гістарычныя хронікі». Яны ахопліваюць перыяд ад XII стагоддзя да 2070 года. Раман з крывёю, з прыгодамі, з пераходам дзяржаўнай мяжы па падземным пераходзе. Таксама я дзесьці на палове дарогі да заканчэння оперы, якая называецца «Галілейская гісторыя». Опера пра тое, як аднойчы, на пачатку нашай эры, у занядбаным малым галілейскім калгасе нарадзіўся Збаўца Свету і што з гэтага атрымалася. Гэта сур'ёзная гісторыя з арыямі, там ёсць Ірад, ёсць тры каралі, якія не могуць перасячы мяжу незалежнай дзяржавы, таму што ў іх вечна пытаюць нейкі талончык. Канчаецца тым, што святая сям'я ўцякае ў Егіпет…

Нашуся з ідэяй напісаць кніжку «Мама Альжбета, бацька Антоній, кошка Нігра і іншыя насельнікі Зямлі». Гэта гісторыя пра бацькоў і тое, што было навокал. Кожныя бацькі вартыя таго, каб пра іх напісаць.

**— Жаданне пісаць звязана з тым, што няма магчымасці выказвацца, як хацелася б, у сваёй прафесіі?**

— Пра акцёрскую прафесію існуе шмат смешных анекдотаў. Чэхаў наогул іранізаваў: «За стеной заговорили чужими голосами, и я понял, что репетиция началась». Напэўна, самыя важныя прафесіі — у людзей, якія рыюць зямлю і нешта на ёй вырошчваюць. Без іх не будзе нічога. На жаль, цяпер тэатр не займае таго месца ў грамадстве, якое ў яго было ў 30-я, 40-я, 50-я гады мінулага стагоддзя.

Наогул большую частку ўяўленняў пра тэатр зрабіла тэатральная крытыка. Пісалі з захапленнем: «О, "Таганка"…». Памятаю, як мы былі ў Маскве, там людзі займалі велізарныя чэргі, немагчыма было дабіцца білетаў. І што ў выніку?..

**— У Беларусі былі спектаклі, якія выконвалі гэтую ролю?**

— Ішлі на чатыры крокі наперад? Пагаворвалі людзям вочы зрэнкамі ў душу?.. Я памятаю той час. Наша краіна была дзесьці заўсёды збоку. Тут нічога вялікага не адбывалася. Напрыклад, калі мы гаворым пра Літву, то маем на ўвазе тэатр Мільцініса, Някрошуса, Каршуноваса. Зараз літоўскія рэжысёры ездзяць па ўсёй Еўропе. У нас гэтага не было, адзін Мікалай Мікалаевіч Пінігін запатрабаваны чалавек.

Я памятаю са студэнцкіх гадоў нейкія намаганні нашых беларускіх рэжысёраў стварыць нешта сенсацыйнае. Гэта было — і прайшло… Наогул, пра спектакль і пра тэатр можна напісаць добра, а можна напісаць дрэнна, у залежнасці ад таго, колькі налілі…

**— Але ў кнігах пра тэатр не пішаце?**

— А пра тэатр няма чаго пісаць, акрамя баек. Шэрае і аднастайнае жыццё, руціна. Ну, выехалі, ну, паказалі, ну, вярнуліся… Ёсць людзі з нармальным узроўнем амбіцый (і яны падмацаваныя нечым). А ёсць тыя, хто разумее, што амбіцыі амбіцыямі, а вышэй за ўласныя вушы не скокнуць: паглядзіце па Мінску, колькі галоўных рэжысёраў па тэатрах сядзіць, а ўсё ўпіраецца не ў творчы вынік, а ў план і перавыкананне.

У рамках тэатра з цягам часу існаваць стала складана. Проза і песні з'явіліся рэакцыяй на тое, што мне было цесна-вата. Пашанцавала з людзьмі: калі напісаў першае апавяданне, то Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч — мой хросны тата ў літаратуры — накіраваў на нармальны шлях. А потым я трапіў да Уладзіміра Максімавіча Дамашэвіча, гэта быў выдатны чалавек і класны пісьменнік, які працаваў у «Маладосці». Я дэбютаваў і адразу атрымаў прэмію за лепшы дэбют — а яна тады была ў памеры зарплаты і нават болей. А потым я хадзіў шчаслівы, але да пары, калі аднойчы на аўтавакзале ў Мінску не купіў часопіс «Маладосць» з маімі апавяданнямі, які быў уцэнены. Я зразумеў: не самае галоўнае — надрукавацца, а трэба яшчэ, каб надрукаванае дайшло да чытача.

**— У тэатры чалавек, які канструюе нейкую мадэль жыцця, звычайна працуе рэжысёрам. Вы не думалі паспрабаваць?**

— Не мая сфера. Ды трэба было пачынаць гадоў 30 таму. Для гэтага патрэбны нейкі запал. Стваραць мастацтва ў тэатры — вельмі файна, але ў мяне ёсць сябры-рэжысёры, яны кажуць: стаміўся, хачу на пенсію. Чалавек сам сябе з'ядае, ад яго застаецца адна шкарлупіна. Трэба ездзіць, нешта глядзець, нешта сінтэзаваць. Гэта цяжка. Цяжка Пінігіну, таму што ён адзін. Адна справа, калі мы бяжым спаборніцтва, а іншая — калі я бягу і разумею, што самы моцны. Трэба, каб усяго было больш. Купалаўскі — файны тэатр, добрая трупа, шыкоўныя акцёры. А трэба, каб такіх Купалаўскіх было некалькі.

**— Нацыянальная тэатральная прэмія — гэта не спроба наладзіць спаборніцтва?**

— Таварыства ўзаемнага захаплення адзін адным?.. На жаль, яна далей не ідзе, не робіцца з'явай. У нас шмат чаго магло б зрабіцца з'явай, але не зрабілася. Наогул, у нас розныя погляды на тое, што такое сучасная беларуская культура і якім чынам яна павінна рабіцца. Няма агульнага разумення пра гэта. Спрэчкі на ўзроўні: «Слон — гэта вяроўка». — «Не, слон — гэта калона». Зараз такі час, што ўсе існуюць неяк самі па сабе.

**— Беларуская культура — наогул складаная форма аб'яднання розных людзей: для сугрaмадзян нібыта ёсць, а нібыта і няма…**

— Тут трэба глядзець, які пункт адліку. Пачатак Ягелонскай дынастыі ў Вялікім Княстве Літоўскім? Ці 1917 год? А можа, лічыць з таго моманту, дзякуючы якому ў Мінску ёсць вуліца Е. Полацкай? Тут трэба гаварыць пра тое, на чым мы будуем сваю хату: на пяску ці на камені? Калі я прыязджаю ў Мінск іграць спектакль «Местачковае кабарэ» ў тэатры імя Янкі Купалы, жыву на здымнай кватэры.

Там я ў шуфлядзе аднойчы знайшоў энцыклапедычны даведнік, які называецца «Янка Купала». Столькі ўсяго пра Купалу напісана: быў добры, выкрываў буржуазію і памешчыкаў, любіў сялян. Такое ўсё салодкае і пафаснае з класавай пазіцыі. І ствараецца ўражанне, што з Купалы ўсё пачалося. І быццам Міцкевіча да гэтага не было, і Кандратовіча-Сыракомлі не было. З вялікай спадчыны ВКЛ і Рэчы Паспалітай многіх народаў нам пакінулі толькі Дуніна-Марцінкевіча і таварыша графа Бандынэлі (Абуховіча). І больш нікога?.. А было шмат пісьменнікаў кшталту Фларыяна Чарнышэвіча, Юзэфа Мацкевіча, Сяргея Пясецкага, якія стваралі ў міжваенныя часы. Якія пісалі папольску, але ж пра тое, што адбывалася тут. А іх куды падзець у нашай культуры? Так, ёсць бясспрэчная класіка савецкага часу: Купала, Колас, Чорны і г. д. Але не ведаю, ці ўзляцім мы на такіх крылах. Трэба вельмі моцна падумаць і пераглядзець сваё стаўленне да гісторыі нашай культуры.

Мне наогул падабаецца нейкая студэнчнасць, разнастайнасць… Калі ўсё было перамяшана. Здаецца, цяпер час монаэтнічных дзяржаў скончыўся, таму трэба заўсёды дамаўляцца, і тады любую ідэю можна рэалізаваць. Толькі трэба дамовіцца пра тое, якая ідэя і які механізм рэалізацыі. Напрыклад, аднойчы, на адным з аўкцыёнаў, які я вёў, мы прадавалі кватэры. Мой дырэктар кажа: «Звярніся да людзей, спытай, на якой мове ім зручней». Пытаюся, і раптам зала: «Па-беларуску давай!» Калі пачынаць нешта, то трэба пачынаць, вядома, з новага, але не трэба забывацца пра тое, як было. І сварыцца не трэба ні з кім.

**— Тое, пра што вы кажаце, пачалося ў нас з 90-х гадоў…**

— Тады шмат што пачалося. Памятаю, як пані Ядвіга Волкава пачала рабіць бардаўскія фестывалі ў Доме літаратара. Колькі было энергіі, колькі аўтараў!



І куды ўсё падзелася? Альбо скончыўся бензін, альбо тэмы — пачалася свабода, амаль пра ўсё ўжо тады і праспявалі… А мне здаецца, калі творца нечым абмежаваны, — гэта вельмі здарова. Ён шукае шляхі, каб выказацца: эзопава мова, эпітэты і параўнанні, метафары… Колькасць сродкаў, праз якія можна дастукацца да людзей, адпаведна, можа павялічыцца. Трэба шукаць, а не браць гатовае.

Гэта лёс, у нас жа заўсёды так: каб нешта ўзяць з нашай зямлі, трэба прыкласці каласальныя намаганні, а гэта значыць, немагчыма было ленавацца, увесь час у працы, у працэсе стварэння багацця ўласнымі рукамі. Кажуць, што людзі палівалі зямлю потам, крывёю, — літаральна. Паглядзіце, колькі камянёў сабрана ў крушнях, калі па палях едзеш, тэхнікі ж не было — і людзі працавалі. Потым іх адарвалі ад зямлі, забралі прыватную ўласнасць, а каб чалавеку належала ўсё жыццё якіх 15 гектараў, то ён бы застаўся ў вёсцы. Наша галоўная каштоўнасць — зямля. А калі яе няма, уцякаюць дзеткі з калгаса, збягаюць у горад. Каб людзі былі нечым прывязаны да гэтай зямлі, заставаліся б. Цяпер гляджу: знікаюць з карты маленькія вёскі. А вёскі няма — няма каму пераязджаць у мястэчка ці горад. Няма прытоку сілы з тым разуменнем каштоўнасці.

**— Але ж ёсць такія мястэчкі, як тое, дзе ў вас хата. Навазаселенае?**

— Гэта, хутчэй за ўсё, уцёкі ад рэчаіснасці, уцёкі ад горада. Некаторыя людзі там жывуць, некаторыя проста прыязджаюць на лета. Для мяне гэта магчымасць выключыцца і займацца сваімі справамі. Ходзіш і нюхаеш кветкі, глядзіш, як пад парогам мурашы поўзаюць, маленькія яшчаркі. Мне вельмі падабаецца сойка. Маленькая птушка (яе яшчэ называюць жалудзёўкай), якая мяняе навакольнае асяроддзе. У мяне на ўчастку дуб, гадоў 200, і калі на дубе паспяваюць жалуды, то сойкі пачынаюць актыўнічаць, выломваюць жалуды дзюбамі і дзесьці хаваюць. А потым ідзеш па сасновым лесе, і бачыш: там дуб вырас, там. Сойкі, нібы дурныя птушкі, незаўважна памянялі навакольнае асяроддзе.

**— А сярод людзей ёсць такія сойкі, якія непрыкметна нешта мяняюць?**

— Вядома. Мы часта не бачым, не зусім разумеем ці з цяжкасцю верым, што такое магчыма. Бывае, мне кажуць: «Я на вашых песнях вырас». А калі пачынаеш аналізаваць, аказваецца, што шмат людзей падзяляюць мой пункт гледжання, у нас мазгі працуюць ва ўнісон.

**— Людзі (грамадства) можа жыць ва ўнісон?**

— Мы ж не будзем зганяць чалавецтва жалезнай мятлой да шчасця… Чалавек сам па сабе нараджаецца самотны, памірае самотны. Жыве часта таксама самотны. Я думаю, трэба даваць людзям рабіць тое, што яны хочуць. Калі ў іх будзе патрэба аб'яднацца, то яны захочуць адчуць сябе грамадствам.

**Размаўляла Ларыса ЦІМОШЫК**

# Без сюрпрызаў?

## Чаго чакаць ад конкурсу кінапраектаў

**Самае відавочнае, што прыносіць кіно, — гэта нечаканасці. Іх заўсёды шукаеш: ці то эмоцыі, новыя героі, свежыя меркаванні. Фільм — гэта водгук на тое, што адбываецца ў свеце, а значыць, кінематограф заўжды заўважае актуальнае і трансліруе гледачу.**

Урэшце гэта тое, якім кіно ўяўляецца. Вольнасць поглядаў, свабода ацэначнасці падзей, часам крытычныя выказванні пра навакольны свет — для кінематографа няма ніякіх забарон, а тым больш — не павінна быць межаў. Як бы крыўдна ні было рэжысёрам, але ёсць, напрыклад, умовы рынку, ёсць неабходнасць здымаць па замове, пра што кажуць многія беларуская кінематаграфісты.

Умовы нашага рынку, на жаль, не даюць рэжысёрам магчымасці ў поўнай меры праявіць творчую індывідуальнасць. Кіно пра сучаснасць адыходзіць на другі план, але перавага аддаецца стужкам пра гераічнае мінулае (што таксама важна) і сацыяльнае. Пра гэта сведчаць і вынікі нацыянальнага конкурсу кінапраектаў (яны, дарэчы, дагэтуль не абвешчаныя канчаткова), які сёлета стартаваў у краіне.

Патрабаванні да ўдзельнікаў конкурсу вельмі сур'ёзныя: творцы мусяць мець досвед у сферы кінематаграфіі не менш за 5 гадоў, 70% складу здымачнай групы павінны быць грамадзянамі Беларусі (ёсць варыянты ў дачыненні да сумесных праектаў). Калі з другім пунктам усё больш-менш зразумела, то ёсць пытанні наконт першага: малады рэжысёр (які, здаецца, яшчэ не мае патрэбнага досведу) можа быць таленавітым, мець уласны погляд на мастацтва і таксама важкія доказы свайго прафесіяналізму (кшталту перамог на кінафестывалях).

Сёлета Міністэрства культуры конкурс працягвае і пасля таго, як ён ужо завяршыўся, але пераможцы былі названыя толькі па некалькіх намінацыях, і невядома, чаму некаторыя лоты не былі разыграныя наогул (напрыклад, у анімацыі). Згодна з запрашэннем да ўдзелу ў конкурсе, размешчаным на сайце Мінкульта, кінематаграфістам прапанавана зняць 3 ігравыя стужкі (у фармаце серыялаў), 5 дакументальных і 8 анімацыйных фільмаў.

Пераможцаў усё ж вызначылі ў дзвяці намінацыях. Над вытворчасцю фільмаў-пераможцаў будуць працаваць 3 кінавытворчыя кампаніі — Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм», ЗАА «Тэлевізійны прадзюсарскі цэнтр» і ЧПУП «Майстэрня Уладзіміра Бокуна».

З пяці намінацый ігравога кіно конкурс вытрымалі толькі 2 лоты — «Дзейнасць сучасных абаронцаў Айчыны па забеспячэнні нацыянальнай бяспекі» (у гэтай намінацыі перамог літаратурны сцэнарый кінастудыі «Беларусьфільм», бо прадстаўлены праект падкрэслівае актуальнасць і сацыяльную значнасць вострай тэмы) і «Гераічная барацьба савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (тут пераможцам стаў сцэнарый ваеннай драмы, які прадставіла ЗАА «Тэлевізійны прадзюсарскі цэнтр»).

Таксама вызначаны пераможцы і ў намінацыях неігравых стужак. Сярод іх — сцэнарый адзінай прыватнай кінастудыі «Майстэрня Уладзіміра Бокуна», якая пазіцыянуе сябе як студыя гістарычных фільмаў, а кіруе ёй вядомы беларускі прадзюсар, рэжысёр і аўтар тэлевізійнага цыкла «Адваротны адлік». У студыі створаць стужку «Уладзімір Мулявін. Акорды жыцця», прысвечаную 75-гадоваму юбілею беларускага песняра, і гэты фільм будзе выдатным віншаваннем і ўспамінам пра артыста. Спадзяюся, што стужку здымуць сапраўдныя майстры тэлевізійнага жанру.

Вядома, што «Майстэрня Уладзіміра Бокуна» падала не адзін сцэнарый для разгляду, таму можна меркаваць, што прыватныя студыі забяспечылі гэты тэндар і ў галіне ігравога і неігравога кіно. Канечне, прыватныя студыі бяруць удзел у конкурсе кінапраектаў больш сціпла, чым дзяржаўныя, і гэта зразумела… Але прамежкавыя вынікі сведчаць пра тое, што ўсё ж ад прыватных кінематаграфічных кампаній таксама можна чакаць нейкага выніку.

Па неігравых фільмах былі разыграныя 7 лотаў (з іх адзін — у прыватнай студыі), па ігравых — 2. Вызначаны таксама пераможцы ў намінацыях «Гісторыя беларускага кнігадрукавання» (асаблівая ўвага, безумоўна, будзе нададзена асобе Францыска Скарыны), «Класікі беларускага кіно», «Юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа», «Міласэрнасць у сучасным беларускім грамадстве», «Выбітныя дзеячы музычнага мастацтва» і «Вялікая Айчынная вайна».

Цяпер Міністэрствам культуры аб'яўлены дадатковы конкурс, і да 28 кастрычніка будуць разглядацца праекты. У ігравым кіно прапануюцца паразважаць наконт «праблем развіцця і ўмацавання інстытута сям'і і шлюбу ў сучасным беларускім грамадстве», стварыць фільм на тэмы «Фарміраванне пазітыўнага вобраза сучаснай Рэспублікі Беларусь у грамадска-сацыяльным кантэксце» ці «Сацыяльная праблематыка асобасных узаемаадносін у сучасным беларускім грамадстве».

У дакументальным кіно чакаюць асвятлення «Актуальныя праблемы культуры», «Прырода Беларусі», «Жыццё беларускай глыбінкі» і «Актуальныя праблемы сучаснага жыцця Беларусі». Што датычыцца анімацыі, то, як ні дзіўна, ні адзін лот не знайшоў тут пераможцу — усе тэмы так і засталіся адкрытымі. А, між тым, анімацыя прапануе шмат цікавых ідэй для разважання — кінематаграфісты могуць зняць стужкі пра тое, як навучыць дзяцей беларускай мове, распавесці «пазнавальныя гісторыі на дзіцячыя "чамучкі" з народным каларытам» і інш. Каментарыяў наконт конкурсу кінапраектаў ніхто не дае, таму застаецца спадзявацца, што ўсе лоты знойдуць сваіх пераможцаў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# СПРАВА ТЭХНІКІ

## Як рэжысёры без спецадукацыі здымаюць фільмы



*Кадр з фільма «Май».*

**У беларускім кіно — новая хваля. Не толькі таму, што рэжысёры пачалі больш увагі надаваць тэме Айчыны, не таму, што пачалі здымаць у новых жанрах. У нашым кінематографе з'явіліся людзі, якія ствараюць кіно па душэўных замовах, а не па прафесіі. Яны робяць гэта без спецыяльнай адукацыі, скончыўшы матэматычныя, інжынерныя, фізічныя факультэты. Сёння наш герой — Аляксей Свірскі, інжынер па адукацыі, рэжысёр па прызванні.**

Кіно заўсёды паддаецца ўмелым рукам — толькі здымайце. Мікіта Лаўрэцкі (пераможца «Лістапада») па адукацыі матэматык, Міхаіл Пархоменка (пераможца «*Kinostenы*») вучыўся ў БДУІР, рэжысёры Аляксандр Максімаў і Андрэй Калеснікаў таксама вучыліся не на гуманітарных факультэтах. Як растлумачыць, што кінематографам сёння цікавяцца людзі, якія былі далёка ад яго ўсё сваё ранейшае жыццё? Чаму іх так вабіць камера?

Аляксей Свірскі адзначае, што кіно — гэта не толькі творчы працэс, але і вырашэнне тэхнічных пытанняў. Магчыма, гэта і ёсць адно з тлумачэнняў такой кольказці «тэхнароў» у кінапрацэсе: «Я "па-тэхнарску" гляджу на працэс, і кіно ўспрымаецца як механізм элементаў, якія ўзаемадзейнічаюць. Спрабую зразумець, як і што будзе працаваць, калі нешта памяняць месцамі: часам падыходжу да творчага працэсу як да рашэння матэматычных задач», якія атрымліваюць рэжысёрскую адукацыю, цікавяцца кінематографам менш, чым тыя, хто проста кіно любіць і жадае ў гэтым рэчышчы развівацца, — вось і доказ, што любоў нашмат мацнейшая. Аляксей тлумачыць: яго адносіны з кіно пачаліся з таго, што ён глядзеў многа фільмаў, а «потым вырашыў, што больш цікава здымаць, будаваць стужкі. Я не ведаў, як што рабіць, але калі хочаш штосьці зняць, то проста пачні гэта. Калі пачуццё цікавасці да кіно ідзе знутры, то, адпаведна, і адукацыя не такая патрэбная».

Аляксей кажа, што пра кіно пачаў думаць дзесьці на трэцім курсе ўніверсітэта — менавіта тады яго пацягнула на творчы бок. Урэшце хлопец пачаў пісаць пра кіно як журналіст, а пасля зацікавіўся і працэсам здымак, пачаў уліваца ў кінематаграфічнае жыццё. Але чаму маладыя рэжысёры не захацелі вучыцца на кінавытворцаў? Свірскі знаходзіць гэтаму трапнае тлумачэнне, бо і сам быў такім: «Калі вызначаешся з прафесіяй, то не ўсведамляеш да канца, чаго хочаш: вельмі рана трэба рабіць выбар. Не разумееш, што табе насамрэч цікава».

Хлопец кажа, што спецыялізаваная адукацыя сёння менш рэлевантная, чым любоў да кіно. Усё ж апошняя ні да чаго не прывязана (для гэтага не патрэбна ні адукацыя, ні вучоба). Да таго ж, хапае прыкладаў, калі людзі,

Карані многіх кінафільмаў часта знаходзяцца ў жыцці рэжысёра: яму хочацца выказацца, выліць перажыванні ў сцэнарый. Для ўласных эмоцый трэба выбраць найлепшую форму, і гэта можа быць кіно. Але таму, хто з кіно не звязаны непасрэдна, першы крок даецца цяжка. Аляксей Свірскі кажа, што для яго кроку «штуршок» зрабіў Мікіта Лаўрэцкі на здымках «Беларускага псіхапата»: проста паказаў, як за некалькі дзён можна зрабіць сваё кіно.

Пытанні па ўвасабленні задумы ў Свірскага ўзніклі адразу ж — усё ж ніякага дачынення да здымак ён не меў, але скарыстаўся прынцыпам: «Калі хочаш зняць кіно, але ў цябе нічога няма, то адзіная магчымасць — брацца і рабіць. Яшчэ на этапе напісання сцэнарыя ўзнікла шмат пытанняў наконт здымак: нават не ведаў, што ў мяне будзе з тэхнікі, дзе буду здымаць. Як чалавеку без спецыяльнай адукацыі мне было цяжка разабрацца на ўсіх гэтых дробязях. А далей — яшчэ цяжэй: падбіраць лакацыі, калі не ведаеш, якой будзе сцэна. Цяжка было ўсё: я ніколі не трымаў у руках камеру! У дапамогу атрымаў паперку з падказкамі. Рабіў усё метадам спроб і памылак. З аднаго боку, цісне невядомасць, а з іншага цікава: ты спрабуеш розныя спосабы вырашэння задач».

Але што важней, калі робіш кіно: нагледжанасць, такая аматарская адукацыя, ці навучанне ў кінашколе? Некаторым рэчам ні ў якай навучальнай установе не навучаць — гэта адзначаюць і рэжысёры, хоць кінаадукацыя дае веды па тэхнічных момантах, дапамагае здабыць разнастайнасць у мантажы, пазбягаць памылак. Стужка Аляксея Свірскага, яго дэбют, трапіла на фестываль *Bulbamovie* — ці не сведчанне таго, што галоўнае для пачынаючыга рэжысёра-пачаткоўца — паставіць мэту: «Прыемна, што фільм будуць паказваць на вялікім экране. Але я не спадзяваўся на гэта: у кожнага фестывалю свае патрабаванні, ды і маё кіно не спрыяе шырокім жэстам. Але, з іншага боку, гэта выдатная магчымасць: я змагу атрымаць зваротную сувязь ад публікі, ды і важна, што людзям, якія маюць вагу ў кіно, спадабалася тое, што я зрабіў».

Стужкі рэжысёраў-«тэхнароў» сёння вельмі добра ўпісваюцца ў кінематаграфічны асяродак. Гэта калі і не новая хваля, то дакладна феномен: людзі розных прафесій спрыяюць развіццю беларускага кіно. «Энергія збоку, — кажа Аляксей Свірскі, — ніколі не будзе залішняй». Людзі, якія вучыліся здымаць кіно самі, непрафесійна, рабілі гэта не па падручніках, а наўпрост глядзелі кіно. І гэта выдатна, бо тады няма ніякіх межаў: такія рэжысёры раскрываюць тэмы па-новаму, з іншага гледзішча. Такія вось вальнадумцы, канечне, у добрым сэнсе слова.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Зліццё энергій

## пяці чыстых галасоў Беларусі



**Нядаўна Мінск зрабіў мне дзівосны падарунак — спатканне з творчасцю знакамітай вакальнай групы «Чысты голас». Сустрэча не першая, але асабліва запамінальная: ноч пасля канцэрта ва ўзнесенай да неба неабарочнай зале «Верхні горад» сталася для мяне бяссоннай… Дый як інакш, калі кожны новы твор у выкананні артыстаў — гэта адкрыццё прыгожага ў музыцы, у мастацтве, нарэшце, у сабе…**

…Аднойчы, чытаючы лісты і ўспаміны П. І. Чайкоўскага, была ўражана водгукам рускага кампазітара пра творчасць Моцарта: «Калі я слухаю яго музыку, — пісаў Пётр Ільіч у адным з лістоў, — я быццам бы здзяйсняю добры ўчынак…». Агульнавядома, што Чайкоўскі надзвычай захапляўся творамі вялікага аўстрыйца, але ж *такія* словы значаць вельмі шмат. Зараз злавіла сябе на думцы, што адчуваю тое ж, слухаючы спевы «Чыстага голасу»… «Быццам бы здзяйсняю добры ўчынак…»

Тое, як выяўляюць сябе на сцэне гэтыя спевакі, нязменна кранае душу, робіць яе чысцейшай, вышэйшай. Ад самага пачатку існавання калектыву, ад самага яго стварэння артысты заклалі ў назву — і ў творчасць — гэтую «праграму» — праграму катарсісу кожнай жывой душы, якая судакранаецца з «Чыстым голасам». Нездарма і крэда сваё калектыў вызначае так: «Ад "Чыстага голаса" — з чыстым сэрцам…». І глядач, слухач — падрыхтаваны або не вельмі — міжволі настройваецца на гэтую хвалю — цудоўную хвалю чысціні і прыгажосці ў сапраўднай, вялікай музыцы. Усё свядомае жыццё я шукаю гэтае сапраўднае… Зараз — у музыцы. І, здаецца, з «Чыстым голасам» знаходжу.

…Валерый Прыгун, мастацкі кіраўнік вакальнага калектыву «Чысты голас», дзеліцца назіраннямі: «У цяперашні час якаснай, сапраўды добрай музыкі становіцца меней, а запатрабаванасць у ёй расце». Парадокс? Толькі на першы погляд. Тым не менш менавіта «Чыстаму голасу», на маю думку, удаецца паспяхова запаўняць гэты своеасаблівы прагал на беларускай музычнай прасторы. Прычым досыць даўно: хутка ўжо чвэрць стагоддзя, як гэты калектыў прысутнічае на беларускай сцэне. Насамрэч не толькі на беларускай. Але тое, што ў 2017 годзе заслужанаму вакальнаму калектыву «Чысты голас» — 25, — чыстая праўда. На гэтым слаўным шляху шмат прыступак, у тым ліку атрыманне групай Нацыянальнай прэміі «За духоўнае адраджэнне» (1996). У Беларусі «Чысты голас» стаў першым калектывам, уганараваным такой прэміяй. Ці гэта не сапраўдны поспех?

Поспех, прызнанне, слава — з'явы няпростыя, і складнікаў у іх шмат. Калі разважаць пра сапраўдны поспех, то найпершы яго складнік — гэта, вядома, прафесіяналізм. У дадзеным выпадку ён вынікае і з вышэйшай музычнай (кансерваторскай) адукацыі кожнага з удзельнікаў калектыву, і з тонкага музычнага густу, сфарміраванага адукацыяй і выхаваннем (многія «голасаўцы» паходзяць з «музычных» сем'яў), і з пачуцця стылю, з артыстызму, якія самі па сабе складаюць такую грандыёзную з'яву, як Талент. Хочацца пісаць гэта слова з вялікай літары, бо мужчынскі вакал, які мы чуем са сцэны ў выкананні «ЧГ», сапраўды якасны, а якасць тут немагчымая без божага памазання Талентам. Як немагчымая яна і без працы: сур'ёзнай, настойлівай, бесперапыннай. Вышэйузгаданы Чайкоўскі, дарэчы, азначыў сакрэт поспеху так: 99% працы + 1% таленту. Ні першае, ні другое праігнараваць немагчыма, калі мэта кіруе на поспех.

Ёсць яшчэ адна дэталь, якая, на мой погляд, пралівае святло на сакрэт поспеху гэтай вакальнай групы. Палова артыстаў калектыву ў розныя часы спявала або працягвае спяваць у царкоўных харах. Калі пяеш для Бога і пра Бога, а не толькі для людзей, патрабаванні да сябе, бадай, самыя высокія. Дый калектыў «Чысты голас» пачынаў свой узыход на музычны алімп з выканання вельмі сур'ёзнай, духоўнай музыкі. А гэта — самая строгая выверанасць формы, дасканалая тэхніка, удумлівае выкананне.

Сёння «Чысты голас» здзіўляе слухача шматграннасцю: аднолькава пераканаўча выконвае і класіку, і фальклор, і стылізацыі, і эстрадныя сусветныя хіты, і сучасную аўтарскую песню як *a capella*, так і з музычным суправаджэннем. Канцэпцыя наступная: выконваць лепшыя вакальныя творы свету любых жанраў, аўтараў, часоў і народаў. Пры гэтым калектыў не збіраецца адмаўляцца ад таго, з чаго пачынаў: зразумела, што многія слухачы ідуць на «той» «Чысты голас», які яны ведалі і любілі яшчэ 10 — 15 — 20 гадоў таму. Аднак група ніколі не лічыла сябе толькі вакальным ансамблем. «Чысты голас» — творчая група з адметным, своеасаблівым выканальніцкім стылем. А гэта дазваляе эксперыментаваць і з рэпертуарам, і з жанрамі, што, у сваю чаргу, значна пашырае кола патэнцыйных слухачоў.

Калі вярнуцца да музычных жанраў, то, здаецца, амаль усе яны падуладныя вакалістам. Як паказаў час, яны здольныя выканаць твор любой складанасці, на любой магчымай мове. Па словах дырэктара калектыву спадарыні Святланы Дземядчук, гэтых моў у паслужным спісе «ЧГ» ужо больш за пятнаццаць. Рыхтуючыся да гастроляў, калектыў заўжды вязе падарунак для гаспадароў у выглядзе вакальнага твора на мове краіны. Напрыканцы лета давялося падвучыць кітайскую, бо якраз цяпер вакальная група знаходзіцца ў гастрольным турнэ на самым «краі свету». Сахалін, Дальні Усход, Кітай — такая геаграфія падарожжа. Фестывалі «Край свету», «Амурская восень», «Рэха "Амурскай восені"». Ужо пяты раз на гэтым «краі свету» «Чысты голас» прымаюць гасцінна, радасна… І зноў кваліцістаю палітрай лепшых галасоў Беларусі яны панеслі прывітанні з краёў славянскіх краям самым для нас далёкім… Краям, дзе запальнае выкананне лепшай музыкі ўсіх часоў і народаў даўно ацанілі ўдзячныя слухачы.

І якраз самых удзячных «Чысты голас» мае, відаць, усё-ткі на Беларусі, у Мінску: на той самы канцэрт, куды я так шчаслівa патрапіла дзякуючы самому ж «ЧГ», квіткі былі раскупленыя яшчэ за два тыдні… Рознабакова адораныя артысты парадавалі і цудоўнай музыкай, і ўласным шармам, і бездакорным стылем у знешнім выглядзе, за чым, зноў жа, пільна сочыць дырэктар, сяброўка і сястра ў адной асобе Святлана Дземядчук. Канцэрт быў падобны на феерычнае кругасветнае падарожжа: разам з артыстамі за няпоўных дзве гадзіны мы пабывалі ці не на ўсіх кантынентах планеты. Мяне ж асабіста найбольш узрушылі і натхнілі менавіта беларускія песні, асабліва «Неба» (музыка Рамана Козырава) і «Песня мая» на верш Янкі Купалы, нядаўна напісаная Алегам Молчанам...

Увогуле, надзвычай радуе, што «Чысты голас» усё часцей звяртаецца да нацыянальнага музычнага матэрыялу. З калектывам плённа працуюць такія сучасныя кампазітары, як Канстанцін Цыбульскі, Валерый Галаўко, Леанід Шырын, ужо названыя Алег Молчан ды Раман Козыраў. Многія тэксты для будучых песень калектыву напісала маладая таленавітая паэтэса Настасся Лебедзева. Ёсць у «Чыстага голасу» і песні з аўтарствам слоў і музыкі Валерыя Прыгуна, мастацкага кіраўніка калектыву.

Узгадаваны беларускай музычнай глебай, усе «голасаўцы» натуральна і прыгожа спяваюць па-беларуску. Мне падалося, што менавіта ў «родных песнях» яны дасягаюць кульмінацыі майстэрства, найвышэйшага эмацыянальнага напалу. І эмацыянальная аддача, рэакцыя залы падчас выканання беларускіх песень таксама найбольш моцная, шчырая.

Усё вытлумачальна. Калі ўважліва прыглядзецца да кожнага з гэтых артыстаў, разумееш: яны сапраўды і моцныя, і шчырыя, і прыгожыя, і энергічныя, і надзвычай адданыя музыцы. Насамрэч, пры зліцці пяці энергій на сцэне адбываецца нешта чароўнае. Пяць прыгожых мужчынскіх галасоў гучаць як адзін, увасабляючы саму філасофію «Чыстага голасу» — мужчынскі пачатак. І сапраўды, усе яны — «вельмі мужчыны». Нездарма ж сярод слухачоў на канцэртах — пераважная большасць жанчын… Дый самі артысты прызнаюцца: «У нас (у калектыве) трынаццаць дзяцей, і мы не плануем на гэтым спыняцца…». Яшчэ адна рысачка да «мужчынскага» партэту «ЧГ»…

Партрэт гэты яшчэ не скончаны, прынамсі, мною і цяпер, напярэдадні юбілею. Дый ці трэба вымалёўваць яго да апошняга штрыха, калі наперадзе дзясяткі канцэртаў і сустрэч, новая чвэрць стагоддзя плённай творчасці…

**Святлана АДАМОВІЧ**

# Скарыць «Вялікую оперу»

## спрабуе беларускі спявак Юрый Гарадзецкі

**У беларусаў зноў з'явілася магчымасць пахвалявацца за суайчынніка: на канале «Культура» расійскага тэлебачання стартаваў праект «Вялікая опера», у якім бярэ ўдзел тэнар беларускага Вялікага тэатра оперы і балета Юрый Гарадзецкі.**

Удзел у праекце спявак разглядае хутчэй як забаву, але не адмаўляецца ад таго, што забава гэтая досыць якасная, бо спрыяе папулярызацыі опернага мастацтва. Першы выпуск «Вялікай оперы» ўжо паказалі па тэлебачанні, а фінал спаборніцтва адбудзецца 24 снежня. Нават калі беларус не стане пераможцам, выступіць на сцэне Маскоўскай кансерваторыі ён усё адно зможа: на гала-канцэрт будуць запрошаныя ўсе артысты.

Гарадзецкі — канкурсант дасведчаны. За яго плячыма нямала міжнародных конкурсаў, а ў самым прэстыжным — «Спявак свету», які праводзіцца BBC у Кардыфе, — тэнар трапіў у пяцёрку фіналістаў. Акрамя таго, Юрый быў на стажыроўцы ў Пласіда Дамінга ў моладзевай студыі Вашынгтонскай оперы, спяваў на сцэне Вялікага тэатра Расіі.

У першым выпуску «Вялікай Оперы» Гарадзецкі бліскуча выканаў раманс Неморына з оперы Даніцэці «Любоўны напой», таму ёсць нагода не толькі атрымліваць асалоду ад оперных спеваў, але і спадзявацца на перамогу нашага таленавітага артыста.

Юрый — выканаўца разнапланавы, магчыма, гэта дапаможа яму і ў «Вялікай оперы». Падчас праекта артысты выканаюць песні на розныя тэмы: тут і руская, савецкая опера, і італьянская класіка, і рамансы. Таксама будуць праграмы, прысвечаныя Галіне Вішнеўскай, Джузэпэ Вердзі, Пятру Чайкоўскаму. Змагацца наш канкурсант будзе яшчэ з 11 выканаўцамі.

Рэпертуар спевака складаюць і «Яўген Анегін», і «Дзікае паляванне караля Стаха», і «Травіята», і «Князь Ігар», і «Паяцы». У 2013 годзе Гарадзецкі даваў сольны канцэрт у кансерваторыі Манрэаля, у 2014-м выступаў у Бельгіі і Расіі. Сёлета Юрыю Гарадзецкаму ўручаны медаль Францыска Скарыны.

«Вялікую оперу» называюць адзіным прафесійным тэлевізійным конкурсам для спевакоў. У журы — рэжысёр маскоўскага музычнага тэатра «Гелікон-опера» Дзмітрый Бертман, румынская оперная спявачка Нэлі Мірычою, оперны спявак з Бельгіі Аксель Эйверарт, заслужаная артыстка Расіі Марына Мешчаракова. Курыраваць музыкантаў сёлета будзе Дзяніс Уласенка, дырыжор Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра «Новая Расія» (ім кіруе Юрый Башмет).

«Вялікая опера» — гэта не толькі пошук яркіх індывідуальнасцей, але і спроба дапамагчы гледачу пазнаёміцца з шэдэўрамі сусветнага музычнага мастацтва, паспрыяць развіццю майстэрства артыстаў. Пра гэта кажуць вядучыя праекта Саці Співакова і Андрэйс Жагарс. Апошні вядомы беларусам тым, што кіраваў Латвійскай нацыянальнай операй, быў членам журы конкурсу вакалістаў на беларускім оперным форуме, да таго ж, прывозіў у беларускі Вялікі тэатр свой спектакль «Манон-Леско» (створаны ў Эстоніі).

Два гады таму ў фінал праекта «Вялікая опера» трапіў беларус Ілья Сільчукоў (барытон Вялікага тэатра тады ўзяў «бронзу» праекта), а цяпер такая магчымасць ёсць і яшчэ ў аднаго нашага вакаліста.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Скарб памяці

## ў творах беларускіх, рускіх, усходнееўрапейскіх мастакоў



*Хаім Суцін «Нацюрморт з рыбамі», 1917 г.*

Знакаміты калекцыянер Аляксандр Валадчынскі пачынаючы з юнацкіх гадоў захапляўся класікай як у музыцы, так і ў жывапісе. Аднак тады нават не падазраваў, што праз гады мастацтва так моцна будзе ўплываць на яго жыццё, светаўспрыманне, што ён пачне набываць самыя дарагія і эксклюзіўныя работы знакамітых мастакоў. У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працуе маштабная выстаўка твораў са збору Аляксандра Валадчынскага «Рускі жывапіс XIX — XX стагоддзяў», у аснове экспазіцыі якой прадстаўлена каля ста работ.

Нягледзячы на тое, што ў свеце Аляксандра Валадчынскага ведаюць як расійскага калекцыянера, сваёй радзімай усё ж такі ён лічыць Беларусь. Сюды сям'я Аляксандра Навумавіча пераехала праз паўгода пасля вайны. Успамінаючы дзяцінства, юнацтва і жыццё ў Мінску, ён пачынае сумаваць, думае, што тады не мог належным чынам ацаніць пяшчоту і цяпрэнне блізкіх у адносінах да яго паводзін, не змог аддаць належнае дарагой зямлі. Таму сённяшняя выстаўка ў мастацкім музеі — своеасаблівы падарунак бацькам і просьба аб прабачэнні, ну і, канечне, прысвячэнне роднай Беларусі.

Хоць выстаўка і называецца «Рускі жывапіс XIX — XX стагоддзяў», у аснову ўвайшлі творы не толькі рускіх майстроў — ёсць і заходнееўрапейскія, а галоўнае, беларускія аўтары. Так, напрыклад, першая работа «Увесну», якую сустракаеш на ўваходзе ў выставачную залу, належыць пейзажысту Вітольду Бялыніцкаму-Бірулю. Тут немагчыма не пазнаць беларускія матывы: бярозавы гай, бледна-блакітнае неба, жоўтыя дзьмухаўцы становяцца быццам бы непадзельнымі кампанентамі. Прадстаўлены ў экспазіцыі і беларускі мастак Апалінарый Гараўскі, якому калісьці пазіраваў Аляксандр II. Яго «Партрэт невядомай», напісаны ў 1862 годзе, таксама ўдала размясціўся на ўваходзе ў адзін з выставачных пакояў. Дарэчы, гэты твор Аляксандр Валадчынскі спецыяльна набыў, як кажуць, з рук, каб прывезці ў Мінск.

А твор Хаіма Суціна «Нацюрморт з рыбамі» (1917 г.) калекцыянер шукаў дастаткова доўга. Бабуля Аляксандра Валадчынскана жыла ў Смілавічах у адзін час з мастаком-імпрэсіяністам, а прабабуля пахаваная побач з яго бацькамі. Напэўна, тут цёплыя сяброўскія альбо сваяцкія адносіны паспрыялі таму, каб творчасць Хаіма Суціна таксама заняла сваё месца ў калекцыі. Дарэчы, спецыяльна для выстаўкі была набыта работа сябра і паплечніка Суціна Міхаіла Кікоіна. Па меркаванні калекцыянера, яго твор «Урок музыкі» выдатна ўзаемадзейнічае з «Нацюрмортам з рыбамі».

«Інтэр'ер з чырвонымі кветкамі» мастака беларускага паходжання Станіслава Жукоўскага стаў сапраўдным упрыгожваннем выставачнага праекта і творам для афішы выстаўкі. Менавіта гэты твор выклікаў захапленне на адкрыцці выстаўкі ў мастацтвазнаўцаў і гасцей выстаўкі. Усё ж такі эстэтыка інтэр'ернага жывапісу Станіслава Жукоўскага непаўторная, ёсць у ёй такія простыя, але ж індывідуальныя элементы, якія зачароўваюць.

Паколькі выстаўка займае тры выставачныя залы, то можна зразумець, што прастора для мастацкай асалоды тут шыкоўная. На ўласныя вочы можна ўбачыць як самыя знакавыя, так і малавядомыя творы Васняцова, Шышкіна, Рэпіна, Саўрасава, Айвазоўскага, Бенуа, Сапунова, Куінджы і іншых мастакоў, дакрануцца да пяшчотнай творчасці братоў Макоўскіх (пад іх творы, дарэчы, адведзена асобная зала). А ўсё таму, што Аляксандр Валадчынскі калісьці ўбачыў работы мастакоў і адчуў у іх беларускую зямлю (хоць сюжэт не звязаны з Беларуссю), якую памятае з дзяцінства. На іх адлюстраваныя маленькія хаткі, не абмежаваныя ніякімі вялікімі пабудовамі, людзі ў сялянскім адзенні. Гэтыя ўспаміны — скарб памяці.

Для Мінска сапраўдны гонар — адкрыццё такой вялікай выстаўкі, дзе раскоша, прастасць і гармонія аб'яднаныя ў агульнае ўспрымание.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Станіслаў Жукоўскі «Інтэр'ер з чырвонымі кветкамі».*

## Культурны ракурс

**Скульптурная кампазіцыя Божай Маці «Знаменне» Лагойская з'явілася ў Лагойску падчас правядзення праваслаўнага фестывалю «Кладзезь».**



Велічны манумент. Божая Маці нібы спусцілася на зямлю да людзей. Валун, на якім яна стаіць, знайшлі на Вілейшчыне. Аўтар чатырохметровай бронзавай статуі — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Слабодчыкаў. У скульптара была нялёгкая задача: увасобіць вобраз Божай Маці з іконы — святыні тутэйшай Свята-Мікалаеўскай царквы — у аб'ёмных формах. З гэтым майстар справіўся выдатна. Помнік мае адметнасць: на галаве ў Багародзіцы — карона, што рэдка сустракаецца на праваслаўных іконах.

Старажытная ікона Божай Маці «Знаменне» Лагойская здаўна лічылася цудатворнай, з'явілася яна ў Лагойску прыкладна ў XVII ст. З тых часоў перажыла некалькі трагічных момантаў: знікала, была ў прыватнай калекцыі. У 1907 годзе адбыўся шматтысячны хросны ход з Мінска ў Лагойск і ікону ўрачыста вярнулі ў храм. На жаль, у 30-х гадах мінулага стагоддзя яна зноў знікла. А ў царкве знаходзіцца ўшанаваны спісак. Людзі з розных месцаў прыязджаюць да гэтай іконы, а заадно набіраюць ваду са святой крыніцы, што б'е з гары, дзе пабудавана царква.

Можа, скульптура Божай Маці стане сімвалам горада? Яго візітнай карткай? А можа, і яшчэ адным прыгожым месцам на Лагойшчыне…

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 13.10.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1594.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4039

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2016
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2016
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2016


ISSN 0024-4686